PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 7 (1866) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 16 ЛЮТАГА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## ПАГЛЫБЛЕННЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

На запрашэнне Праўлення Беларускага фонду культуры накіравалася ў Менск дэлегацыя ГП БГКТ і Камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы ў складзе: Аляксандр Баршчэўскі, Кастусь Майсеня, Валянціна Ласкевіч і Янка Сычэўскі. Паездка прадаўжалася ад 23 да 25 студзеня 1992 г. і была выключна напружанай і працавітай.

Ужо ў першы дзень сустрэліся мы ў Гродзенскім аддзяленні Беларускага фонду культуры, дзе апрацавалі план супрацоўніцтва на 1992 год. Як і дагэтуль, старшыня Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры і прарэктар Гродзенскага універсітэта Сяргей Габрусевіч праявіў вялікае зразуменне нашых патрэб, асабліва ў галіне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Можам спадзявацца, што дапамога Беларускага фонду культуры ў Гародні ў гэтай справе будзе не меншай, чым у мінулым годзе.

Пераначаваўшы ў Гародні, паехалі мы 24 студзеня ў Менск, дзе на працягу трох дзён сустрэліся з прадстаўнікамі „Радзімы", Міністэрства культуры, Міністэрства асветы, Фонду культуры і Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына".

У „Радзіме" на працягу многіх гадзін размаўлялі мы з першым намеснікам старшыні Таварыства Мікалаем Васілёнкам і намеснікам — Уладзімірам Навіцкім аб розных формах супрацоўніцтва. Нас запэўнілі, што „Радзіма", як і дагэтуль, будзе падтрымліваць пабудову музея ў Гайнаўцы, дапамагаць нашаму аматарскаму руху і пенсіянерам. У Міністэрстве культуры сустрэліся з намеснікам міністра Уладзімірам Рылаткам.

**( Працяг на стар. 4 )**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '92

Галоўнае праўленне БГКТ сардэчна і шчыра запрашае на канцэрты-агляды „Беларуская песня '92". Раённыя агляды будуць праводзіцца:

— у Беластоку -**15 лютага**, а 14 гадзіне, у будынку БГКТ, вул. Варшаўская 11,
— у **Гайнаўцы - 16 лютага**, а 13 гадзіне, у Гайнаўскім доме культуры,
— у **Бельску-Падляшскім - 23 лютага**, а 14 гадзіне, у Бельскім доме культуры.

На канцэрце ў Бельску гасцінна выступіць калектыў „Медуніца" з Ашмянаў, што на Беларусі.

**Цэнтральны агляд адбудзецца 29 лютага, а 10 гадзіне ў Беластоцкай філармоніі. Там жа 1 сакавіка, а гадз. 14 і 17 адбудуцца два гала-канцэрты з удзелам прафесіянальнай групы народнай песні „Купалінка" з Менска** (на здымку).



## МЕСЦА ДЛЯ НАС

**Размова з Алегам Латышонкам — лідэрам Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.**

*— Нарадзіўся ты 35 гадоў таму ў Эльблангу. Як на беларуса, гэта дзіўнае месца нараджэння...*

**Алег Латышонак:** Туды, пасля вайны, лёс закінуў майго бацьку. сам ён з Віленшчыны, але жонку знайшоў сабе на Беласточчыне. Мая маці з Лукі — была калісьці такая вёска над Нарвай. Я лічу сябе беластоцкім, паколькі тут выхаваўся.

**А. Латышонак:** Тады я не думаў яшчэ пра беларускасць у катэгорыях грамадства. У той час даспявала ўсяго мая асабістая свядомасць. Гістарычную літаратуру пра Беларусь (а ў падвалах Ягелонскага універсітэта, бадай, ці не найбольш яе ў свеце) чытаў я не менш заядла, чым польскую падпольную. Беларусь я ўспрымаў раней як нейкую выдумку майго бацькі і ягонага сябра Юркі Геніюша. У Кракаве дайшло да мяне, што і Беларусь мела сваё вялікае мінулае, але ж схавалі яго ад людзей, халернікі. І тады, разумееш, падумалася мне: ну, пачакайце! Вось так і стаў я беларусам.




*— Называюць цябе таксама кракаўскім беларусам...*

**А. Латышонак:** У Кракаве я закончыў гістарычны факультэт у Ягелонскім універсітэце. У васьмідзесятым годзе вярнуўся на Беласточчыну і настаўнічаў у тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі. Вярнуўся ў самы знамянальны для краіны час. Мае палітычныя погляды грунтаваліся ў час вучобы ў Кракаве, яшчэ да „Салідарнасці". Ва універсітэце дзейнічалі нелегальныя арганізацыі, распаўсюджвалася непадцэнзурная літаратура. Даволі хутка ад стану дзіцячай неўсвядомленасці перайшоў я на пазіцыі праціўніка пануючай сістэмы. Чагосьці такога як „Салідарнасць" чакаў я са сваімі кракаўскімі сябрамі, хоць і не надта мы тады верылі, што народ прачнецца.

*— Маеш тут на ўвазе, зразумела, польскі народ. А што з беларускім?...*

*— І назад у Беласток?!*

**А. Латышонак:** Тут засмактала мяне „Салідарнасць". У працу для яе укладаў я ўсё сэрца, бо верыў, што рух гэты прынясе змену існуючага парадку. Дзякуючы студыям я ведаў ужо раней, што камунізм увёў краіну ў сляпы завулак. „Салідарнасць" бачылася мною як адзіны магчымы з яго выхад. Ідэі, над якімі дыскутавалі мы ў склепе пад нашым інстытутам у Кракаве, сталі падзяляць мільёны людзей.

*— Ну, але сярод гэтых мільёнаў не аказалася беларусаў?*

**А. Латышонак:** Цяжка было гэта зразумець кракаўскаму беларусу.

**( Працяг на стар. 6 )**




## РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка III**

Мяне асабіста праблема рэлігійнасці беларускага грамадства цікавіць выключна ў аспекце яго нацыянальнай духоўнасці. Без багатага духоўнага жыцця народ вяне, чахне, убажэе маральна. Зразумела, што духоўнасць можа праяўляцца ў розным: у высокай палітычнасці, у высокай культурнасці, у вялікай начытанасці, у вялікай прывязанасці да тэатра, у схільнасці да самаадукацыі ці ў моцна разбуджанай нацыянальнай самасвядомасці. Думаю, што ні адна з гэтых схільнасцей і магчымасцей не характарызуе беларускага народа. Многагадовая дамінацыя адной партыі, якая за народ вырашала, за народ пастанаўляла і за народ думала, прычынілася да вялікага духоўнага спусташэння, маральнай пустыннасці. Зразумела, што было б добра, калі б удалося у беларускім народзе адбудаваць, выклікаць у яго душы цікавасць да ўсіх вышэй названых сфер духоўнага жыцця. Аднак, заданне гэта вельмі цяжкое, а быць можа, пакуль што і невыканальнае. Усё ж над некаторымі сферамі працаваць трэба і ёсць магчымасць удачы. Да такіх сфер, на маю думку, належыць рэлігійнасць. Усё тое, што сталася ў былым СССР, маю на ўвазе яго поўны развал і ўзнікшы ў яго апошняй фазе крызіс, выразна павінна спрыяць развіццю рэлігійных такой прапаганды заваліліся, і сёння амаль кожны жыхар былога СССР адчувае сябе як чалавек, пад нагамі якога патрэскаў лёд. Разгубленасць людзей робіць іх схільнымі верыць у абстрактнае, верыць не толькі ў тое, што можа быць пабачана вачыма і намацана рукамі. Аднак, рэлігійнасць у чалавека так, як і атэізм, не родзіцца з дня на дзень. Паяўляецца яна ў выніку доўгатрывалага працэсу, які вядзецца бацькамі, школамі, прэсай, літаратурай, тэлебачаннем. Я не веру ў масавую рэлігійнасць сённяшніх

### АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

пачуццяў. На працягу дзесяткаў гадоў партыйная прапаганда пераконвала людзей, што менавіта яны самі з'яўляюцца поўнымі панамі, ці можа нават і Багамі свайго лёсу, што ніякае неба і ніякія святыні не маюць найменшага ўплыву на чалавечае жыццё, што не Бог з'яўляецца стваральнікам чалавека, а чалавек ёсць стваральнікам Бога. Усе фундаменты беларускіх дарослых пакаленняў. Справа ў тым, што пакаленні гэтыя настолькі атэістычныя, што зварот іх да рэлігійнасці амаль што немагчымы.

Я быў у БССР каля 150 разоў і два разы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь. Некаторыя мае пабыўкі прадаўжаліся паўгода, а нават і дзевяць месяцаў. За ўвесь гэты час не сустрэў я ніводнага беларуса, які б мне сказаў, што ідзе ў царкву або з царквы. Па сутнасці нідзе, у ніводнай кватэры не бачыў я іконы або крыжа. Выключэннем з'яўлялася кватэра пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Зразумела, што такая сітуацыя была выклікана ўжо прыгаданымі мною кірункамі і характарам партыйнай прапаганды. Вялікім было здзіўленне беларусаў з БССР, якія прыязджалі да мяне ў Варшаву і бачылі на сцяне ікону і крыж. Здзіўленне гэта паглыблялася яшчэ болей, калі даведваліся яны, што я з'яўляюся членам партыі, і даходзіла да апагея, калі я ім гаварыў, што ў царкоўным разуменні гэтай справы я з'яўляюся вольнадумцам.

Так ці інакш, большасць савецкіх беларусаў былі і, мабыць, усе яны надалей пераканаюы, што рэлігія гэта не дапамога, а толькі перашкода ў жыцці, што яна нічога не выясняе, а толькі зацямняе многія жыццёвыя справы. Аднак, паяўляецца і другая тэндэнцыя. Засноўваецца яна на перакананні, што зусім няверуючы чалавек гэта як бы чалавек няпоўны, як бы скалечаны.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*************************************************************************




**У сталіцы Беларусі** адбылася канферэнцыя, прысвечаная пытанням дапамогі краінам былога СССР. Прадстаўнікі рэспублік Сярэдняй Азіі выказалі занепакоенасць тым, што большая частка гэтай дапамогі будзе прызначана Садружнасці Незалежных Дзяржаў са шкодай для меншых краін. У Менску абмяркоўваўся план паставак з дапамогай і патрэбы ў будучым. Прадбачваюцца яшчэ далейшыя сустрэчы ў Лісабоне і ў Токіо. Ні ў Менску, ні раней на падобнай канферэнцыі ў Вашынгтоне не была акрэслена вартасць дапамогі.

**ЗША адкрылі свае пасольствы** ў чарговых чатырох краінах СНД — **Беларусі**, Арменіі, Казахстане і Кіргізіі. Такім чынам лік дзяржаў СНД, у якіх ЗША маюць свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы, узрос да шасці. Амерыканскія пасольствы знаходзяцца яшчэ ў Расіі і Украіне.

**У Гістарычным музеі ў Беластоку адкрыта выстаўка, прысвечаная польскім і літоўскім татарам.** На выстаўцы, якая будзе працягвацца да канца красавіка, пагллядзець можна рытуальнае начынне, зброю, амулеты, малітоўныя дыванікі, убранне імамаў, малітоўнікі з XVII і XVIII стагоддзяў, экземпляры Карана і старыя фатаграфіі. Экспанаты паходзяць з уласнай калекцыі Мацея Кананацкага (колішняга супрацоўніка „Нівы") і з фондаў Музея гісторыі рэлігіі Літвы ў Вільні

**Прымірыцельную камісію**, якая б наніярэджвала і вырашала міжэтнічныя канфлікты, запрапанавалі стварыць прадстаўнікі амерыканскай арганізацыі „Partners for democratic change" на сустрэчы ў сядзібе Ваяводскага самаўрадавага сейміка ў Беластоку. Удзельнічалі ў ёй, між іншым, сацыёлагі з Філіі ВУ, члены фондаў „Дыялог" і „Плюс". Такім чынам Беласток стаў бы адным з некалькіх рэгіянальных асяродкаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, ахопленых праграмай дапамогі ў галіне вырашэння праблемаў, якія ствараюць культурныя, рэлігійныя і нацыянальныя адрозненні.

**„Megabiznes"** — польска-беларускі двухтыднёвік, так называецца рэкламнае выданне, якое выйшла ў Беластоку і бясплатна распаўсюджваецца на тэрыторыі Польшчы. Выдаецца яно прыватнай фірмай „Данбо" (рэдактар **Анджэй Палякоўскі**). Паралельна ў Менску выходзіць блізнячае рускамоўнае выданне **„Мост Меркурия"** (рэдактар **Вацлаў Багдановіч**). Абедзве рэдакцыі цесна супрацоўнічаюць між сабою і абменьваюцца рэкламнымі матэрыяламі. „Сёння многія прадпрыемствы, каапператывы, прыватныя прадпрымальнікі настойліва шукаюць партнёраў на Захадзе. З другога боку і там ёсць нямала ахвотных рызыкнуць сваім капіталам, выгадна ўлажыўшы яго ў справу ў нас. Мы хочам дапамагчы тым, хто гэтага патрабуе" — пішуць у перадавіцы выдаўцы „Моста Меркурия".

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

2 лютага г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ з удзелам гасцей з Рэспублікі Беларусь. Бралі ў ім удзел старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" Яўген Лецка, старшыня Гродзенскага аддзялення Беларускага фонду культуры Сяргей Габрусевіч і загадчык Аддзела культуры ў Гродне Віктар Губіч.

У пачатку Прэзідыум прыняў рашэнне аб членстве Таварыства ў Фондзе „Усход", які ствараецца ў Беластоку з мэтай пашыраць гаспадарчае і культурнае супрацоўніцтва з Беларуссю і іншымі ўсходнімі краінамі. Затым разглядаліся фінансавыя і кадравыя пытанні БГКТ. У сувязі з тым, што няма гарантыі на дзяржаўную датацыю, само існаванне Таварыства і яго структур апынулася пад пагрозай. Вырашана, што ў такой сітуацыі трэба абараняць тыя штаты, якія яшчэ захаваліся, і рабіць намаганні на атрыманне датацыі і арганізацыю гаспадарчай дзейнасці.

Сакратар ГП Валянціна Ласкевіч пазнаёміла прысутных з праектам плана дзейнасці на 1992 год. Самым важным здарэннем у жыцці Таварыства павінен быць чарговы XII З'езд БГКТ, які плануецца правесці ў кастрычніку або лістападзе г.г. У культурнай дзяльнасці прадбачваюцца конкурсы, канцэрты, выстаўкі, народныя святкаванні і выдавецкая дзейнасць так, як у мінулым годзе. Некаторыя культурныя мерапрыемствы будуць арганізаваны пры дапамозе культурных установ з Гродзеншчыны. Прапанаваны план быў прыняты з агаворкай, што з-за недахопу фінансавых сродкаў можа ён скарачацца.

Інфармацыю пра ход пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы даў Канстанцін Майсеня. Карыстаючыся нагодай, выказаў ён гасцям з Беларусі сардэчную падзяку за перададзеныя ў карысць Камітэта пабудовы матэрыялы і абсталяванне (апошнім часам установы з Беларусі ахвяравалі 100 тон цэменту, 146 кв. м. мармуру і дэкаратыўныя ўваходныя дзверы).

Прэзідыум ГП БГКТ ухваліў рашучы пратэст супраць адмены часу трансляцыі ў нядзелю радыёперадачы „Пад знакам Пагоні". Прыгадаем, што 2 лютага а гадзіне 8.30 замест беларускай радыёперадачы ў Беластоцкім радыёвяшчанні прагучала „Украінская думка". У панядзелак (3 лютага) дырэктар Радыёвяшчання перапрасіў слухачоў за гэты інцыдэнт і заявіў, што беларускія перадачы будуць трансляваца паводле ранейшага раскладу.

(л)

## БУДЗЕ ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Пры нагодзе пабыўкі ў Гайнаўцы я ахвотна скарыстаў з запросін Кастуся Майсені прысутнічаць на пасяджэнні Камітэта пабудовы Беларускага музея. Праблемаў да вырашэння сабралася нямала:

— якой частцы будовы даць першынства,
— праблема збору грошай на будову і збору экспанатаў,
— справа будаўнічых матэрыялаў,
— персанальныя справы.

Усё гэта рашалася спраўна, калектыўна і кожны з прысутных абавязаўся тое ці іншае выканаць.

Будынкі музея робяць вялікае ўражанне. Гэта аграмадная, талкова запраектаваная будоўля павінна стаць цэнтрам беларускай культуры. Дзеля гэтай мэты тут фактычна ўсё прадбачана: экспазіцыйныя залы, зал пераховування экспанатаў, кансерватарская і фатаграфічная майстэрні, памяшканне на дакументацыю, кіно, канферэнцыйны зал, памяшканне на кафейку, гасцініцу, краму, адміністрацыйная частка. Прызначэнне часткі памяшканняў паказвае на тое, што маюць яны служыць утрыманню ўсяго будынку, а будзе гэта не менш клапатлівае, чым сама будова. У дзвюух залах будынка „А" ўжо наладжаны выстаўкі экспанатаў.

На музейным панадворку стаялі два аграмадныя грузавікі. На іх паступіў з Беларусі транспарт цэменту як дар суайчыннікаў, ды не першы ў гісторыі будовы музея. Тое, як вычароўвае гэтыя дары К. Майсеня, якім спосабам пераадольвае цяжкасці на граніцы, з'яўляецца яго таямніцай. Вядома толькі, што кожны транспарт сам канвае, мерзнучы ў кузавах грузавікоў.

Усё гэта пераконвае, што вартая клопатаў справа трапіла ў рукі адпаведных людзей.

**Я. ЖАМОЙЦІН**




* Парыж перакрэслівае Беларусь.
* Радыё Варшава па–белараску.
* У Нараўчанскай гміне.
* Аб пагранічы і крэсах у Ольштыне.
* Зімовыя канікулы беластоцкіх дзяцей .

# ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка



*Старшыня ЗБМ Марко Заброцкі.*

## ЗЬВЯЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

У „Беларуска-расійскім слоўніку" Янкі Станкевіча зьвяз тлумачыцца як саюз. Слова гэтае рэдка ўжываецца, элітарнае яно, але мае моцнае, вайсковае гучаньне, да таго-ж яшчэ й ёмістасьць. Добра адпавядае характару новастворанай арганізацыі.

Заснавальніцкі сход Зьвязу Беларускай Моладзі меў месца 12 студзеня гэтага году ў Бельску. Большасьць прысутных гэта вучні ліцэяў. Каб абмежаваць уплыў на сябе мастадонтаў з БАСу — некалькі цікаўных паявілася ў зале, — ЗБМаўцы не далі ім права голасу ў выбарах, ані не дазволілі ўвайсьці ў структуры свае арганізацыі. Часта-густа падкрэсьлівалі яны, што ЗБМ гэта элітарнае зьвяно беларускае моладзі й абы-хто ня можа да яго належаць.

Дзеля забесьпячэньня элітарнасьці ў статут былі нанесены адпаведныя пункты. Напрыклад, новага сябру прымаецца ў шэрагі ЗБМ толькі пасьля поўгадовага выпрабавальнага пэрыяду. Таксама сябры іншых, ці то грамадзкіх, ці чыста палітычных структураў ня могуць стаць поўнапраўнымі сябрамі ЗБМ, ано яго сымпатыкамі, г.зн. бяз выбарчага права.

Напачатку сходу завадатары ўсур'ёз разважалі нават магчымасьць стварэньня выключна мужчынскай арганізацыі. Гэтая задума ўпала сама па сабе, калі зьявіліся надзвычай энэргічныя дзяўчаты з гайнаўскага ліцэя.

Павазіўшыся як сьлед са статутам, вызначыўшы назвы кіруючых ворганаў арганізацыі, сябры-заснавальнікі перайшлі да выбараў. Старшынёю Зьвязу Беларускай Моладзі стаў Марко Заброцкі зь Бельска. Наступныя асобы складаюць Раду: Адам Тарасэвіч (намесьнік старшыні), Рыгор Дзьмітрук (скарбнік), Хрысьціна Андрэюк (сакратар), Сьняжына Пучко, Юрка Асеньнік, Андрэй Чыжэўскі і Хрыстафор Сяськевіч. Сядзіба кіраўнічых ворганаў ЗБМ: Бельск, тэрыторыя дзейнасьці: цэлая Польшча.

Калі здавалася, што йдзе да шчасьлівага завяршэньня сходу й ня менш шчасьлівай будучыні арганізацыі (воплескі, віншаваньні, у тым і ад БАСу, якія ніжэй прыводзім), амаль не разваліласяя яна на самым старце. І гэта таму, што пачалася гаворка пра мундуры для сяброў ЗБМ, пра складчыны на вайсковыя чаравікі. Цяжка ўгануць, чым дыскусія закончылася-б, каб ня добры густ сяброваk ЗБМ. Яны, на прапановы замяніць мініспаднічкі або джынсы, якія гладка прылягаюць да фігуры, нейкімі зялёна-шэрымі лахманамі, толькі скрывіліся й сказалі: не! Давялося прыцішаць настрої, супакойваць дыскутантаў ды, проста, пагадзіцца з дэмакратычнымі спосабамі вырашаньня складаных пытаньняў.

На шчасьце дайшлі да ладу, заціхлі скрыгаты, наступіла прымірэньне. Тады слова ўзяў старшыня Марко Заброцкі. Падзякаваў за выбар і, каб ня было сумневу, хто будзе кіраваць ЗБМам, вылажыў сваю канцэпцыю зьвязу: „Мы ня першая беларуская арганізацыя ў Польшчы. Калі паявілася думка стварыць ЗБМ, мы доўга разважалі, ці ёсьць патрэба новай арганізацыі. Правялі анкету ў ліцэях, у Гайнаўцы й у Бельску. Вынікі яе перайшлі нашы спадзяваньні — маладыя людзі патрабуюць беларускай арганізацыі, якая-б іх гуртавала. Ці Зьвяз Беларускай Моладзі будзе ім адпавядаць, я ня ведаю. Але, лічу, настаў ужо час стварыць структуры, характэрныя высокай ступеньню арганізаванасьці, без прыпадковых людзей, г.зв. мёртвых душаў. Няхай тых людзей будзе менш, але каб была ўпэўненасьць, што яны будуць нешта рабіць. Няхай гэта будуць толькі тыя, якім на сэрцы напраўду ляжыць лёс беларушчыны на Беласточчыне. Лічу, што людзі ў ліцэях ужо настолькі дарослыя, каб аб гэтым падумаць. Ліцэісты-ж няраз у гісторыі рабілі паўстаньні, рэвалюцыі. Хіба настаў ужо такі час, каб нешта зрабіць. Лёс беларушчыны тут залежыць толькі ад нас і ад таго, што мы будзем рабіць.

Напэўна будуць такія, якія ня знойдуць сабе месца ў ЗБМ. Што-ж, прыкра, але яны мусяць пашукаць сабе іншую арганізацыю, або стварыць новую. Няхай кожны мае магчымасьць выбару й тут застануцца самыя цьвёрдыя, зь цьвярозай думкаю".

З Марком Заброцкім ужо ніхто не спрачаўся. На гэтым сход закончыўся, але перад сябрамі ЗБМ яшчэ доўгая дарога да фактычнага заісьнаваньня: рэгістрацыя арганізацыі, выпрацаваньне мэтадаў дзейнасьці ды пазыцыі ў беларускім грамадзтве ў Польшчы.

**М.В.**

P.S. Інфармацыя для БАСаўцаў: сябрам ЗБМ можна быць да 35 году жыцьця. Калі гэтага хочаце, не зацягвайце занадта вучобы.



*Ідэя выключна мужхынскай арганізацыі ўпала, калі паявіліся дзяўчаткі з Гайнаўкі.* **Фота М. Ваўранюка.**

## ПРЫВІТАНЬНЕ

Галоўная Рада БАСу зь вялікай радасьцю адзначыла факт узьнікненьня новай беларускай арганізацыі.

Верым, што ў Вашых радах зьбярэцца самая вартасная частка беларускай моладзі. Спадзяемся, што якраз Зьвяз Беларускай Моладзі будзе тым зьвяном, якога не хапала ў нашай грамадзкасьці.

Паколькі мэты існаваньня БАСу й ЗБМу вельмі падобныя, выказваем спадзяваньні плённага супрацоўніцтва на будучыню.

Жадаем цікавых думак і іх ажыцьцяўленьня, вытрываласьці й посьпехаў у працы, якая пойдзе ў карысьць беларускай справе.

**Ад імя Галоўнай Рады**
**Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў**
**ПРЭЗЫДЭНТ БАРБАРА КУЧЫНСКАЯ**

**Беласток, 10.01.1992 г.**

## З ХРОНІКІ БАСу

**20 сьнежня 1991 г.** у студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Зьвежынецкай сябры БАСу наладзілі Куцьцю, або Вілею, як гавораць галоўныя яе арганізаторкі: Аня й Гражына Адамік ды Дарота Кузьміч з Гарадка. Ужо другі год беластоцкія студэнты ў такі спосаб перад Калядамі ўшаноўваюць сваю народную традыцыю. За сталом, прыкрытым белым абрусам і застаўленым поснымі стравамі, села звыш дваццаці чалавек, зрэшты, ня толькі студэнты. У сьвяточны настрой увёў прысутных Коля Ваўранюк, які прачытаў са Сьвятога Эвангельля фрагмэнты пра Хрыстова Нараджэньне. Затым усе падзяліліся куцьцёю. У сапраўды сямейнай атмасфэры прайшло некалькі гадзінаў, зь якіх прынамсі адну ўсе сьпявалі беларускія калядкі. Бадай ці ня самай вялікай атракцыяй Куцьці быў жывы карп, якога купіў Валодзя Пац з думкай сьпячы на вечар. Аднак ня меў сэрца забіць жывое стварэньне, як і ніводзін зь ягоных сяброў. Таму пад час урачыстае вячэры карп спакойна сабе плюхаўся ў місцы, не падзяліўшы лёсу сваіх сваякоў сьледзяў.

**10 студзеня 1992 г.** прадстаўнікі БАСу завіталі са сьвятачным падаркам на рэпэтыцыю дзіцячага хору, які пры саборы сьв. Мікалая вядзе Ірэна Макац-Карпюк. У падзяцы за салодкасьці БАСаўцы атрымалі некалькі калядак ды „Многія леты". Пасьля кароткай гутаркі з малышамі студэнты падбадзёрылі іх надпісам на дошцы „БАС кахае Вас" і разьвіталіся да нядзелі, калі ў Беластоцкай Філярмоніі меўся быць канцэрт калядак. І сапраўды, у нядзелю 12 студзеня, запоўненая па берагі заля філярмоніі пачула непаўторны канцэрт беларускіх калядак у выкананьні знаёмых БАСу — дзіцячага хору Ірэны Макац-Карпюк (сябра БАСу).

**10 студзеня 1992 г.** адбылося першае пасяджэньне нававыбранай Галоўнай Рады БАС. Абмяркоўваліся бягучыя праблемы арганізацыі. Сябры ГР вырашылі, што яшчэ ў студзені трэба прадставіць Ваяводзкаму Суду ў Варшаве для зацьвярджэньня папраўкі ў статуце БАСу й дамагчыся прызнаньня зьмены сядзібы ўладаў арганізацыі з Варшавы ў Беласток. Як найхутчэй трэба зрабіць новыя пячаткі БАСу ды фірмовую паперу.

Да канца лютага павінны правесьці сходы гурткі БАСу пры паасобных вучэльнях. Трэба выбраць новыя іх улады.

Абмяркоўвалася справа ўвядзеньня новых сяброўскіх білетаў БАСу для ўпарадкаваньня арганізацыі. Такі білет быў-бы падставай для зьніжак на БАСаўскіх мерапрыемствах.

Першыя мерапрыемствы гэта: 13 студзеня Шчодры Вечар і 28 лютага турнір БАС — ліцэі — ЗБМ. Білеты са Шчодрага Вечару пойдуць на патрэбы турніру, сарганізаванем якога займецца ўжо ЗБМ.

ГР зь вялікаю радасьцю паставілася да стварэньня Зьвязу Беларускай Моладзі й зацьвердзіла прывітальны

( Працяг на стар. 4 )




### Аўкцыён у Кельцах

22 лютага г.г. у Клубе МПіК у Кельцах (вул. Варшаўская 5), адбудзецца сёмы ўжо келецкі аўкцыён. З выдавецтваў, падрыхтаваных для торгаў, я выбраў такія, якія могуць зацікавіць чытачоў „Нівы":

Poz. 27 — Orientacyjny plan miasta Brześcia n/B, Brześć b.r.w. (barwny), wym. 39x34 cm. Cena wywoławcza 20 tys. zł.
Poz. 42 — Tilsit, Szawle,Königsberg, Kowno, Łomża, Grodno. Abteilung des Stellvertretenden Generalstabes der Armee 1914. Masstab 1:300 000, wym. 112x92 cm (mapa podklejona na płótnie). C.w. 120 tys. zł.
Poz. 320 — d'Herbigny M., Anglikanizm i prawosławie grecko-słowiańskie, W-wa 1924, C.w. 40 tys. zł.
Poz. 328 — Hołubowicz W., Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi, Toruń 1950. C.w. 80 tys. zł.
Poz. 331 — J.S., W kościele i cerkwi. Praktyczny wykład obrządków rzymskiego i greckiego, Kraków 1926 (wyd. Jezuici). C.w. 40 tys. zł.
Poz. 345 — Kamiński A., Jaćwież. Terytorium, ludność, stosunki gospodarcze i społeczne, Łódź 1953. C.w. 80 tys. zł.
Poz. 417 — M.St.x, Cerkiew unicka we wschodniej Małopolsce w czasie inwazji rosyjskiej (1914-1917), Fakty i refleksje, Lwów 1920. C.w. 30 tys. zł.
Poz. 470 — Piekarski S., Wyznania religijne w Polsce (zawiera m.in.: Prawosławie), W-wa 1927. C.w. 40 tys. zł.
Poz. 495 — Remer J., Wilno, Poznań b.r.w. (seria: Cuda Polski). C.w. 200 tys. zł.
Poz. 559 — Urban J., Katolicyzm a prawosławie, Kraków 1912. C.w. 80 tys. zł.
Poz. 561 — Urban J., Wśród unitów na Podlasiu. Pamiętnik wycieczek misyjnych, Kraków 1923. C.w. 30 tys. zł.

Пісьмовыя заказы можна накіроўваць на адрас: Antykwariat Naukowy, Andrzej Metzger, ul. Warszawska 6, 25-953 Kielce 12, skryt. pocz. 88. У іх неабходна падаць: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара і загаловак кніжкі, а таксама суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за выдавецтва.

**ПЁТР БАЙКО**

**( Працяг са стар. 3 )**

ліст, зь якім на ўстаноўчым сходзе ЗБМ выступіла прэзыдэнт Барбара Кучынская.

На 21 лютага запланаваны пачатак курсу беларускай мовы пры Філіяле Варшаўскага Унівэрсытэту ў Беластоку, перш за ўсё, для сяброў БАСу. Заняткі будуць праводзіцца кожную пятніцу вечарам і суботу раніцай да канца траўня й закончацца дзяржаўным экзаменам. У рамках курсу арганізуюцца „Беларускія чытаньні" — лекцыі пра літаратуру з удзелам дакладчыкаў з Рэспублікі Беларусь.

Наступнае пасяджэньне Галоўнае Рады БАС — 21 лютага.



# ПАРЦАВА

У палавіне вёскі Парцава, што доўга расцягнулася паабапал дарогі з Бельска ў Орлю, на ўзгорачку стаіць невялікая, але стройная царкоўка. Сваім гарманічным, суладным з наваколлем выглядам прыцягвае зрок, спараджаючы пытанні пра гісторыю яе і ўсяго сяла.

Пачынаць гісторыю сённяшняй вёскі Парцава трэба з часоў, калі яшчэ не існаваў Бельск як вялікі адміністрацыйны і важны абаронны асяродак. У старажытныя часіны нашай Славяншчыны людзі пасяляліся найчасцей уздоўж рэчак і далін. А вядома, якое вялікае значэнне меў заўсёды добры доступ да вады. У наваколлі Парцава бярэ пачатак рэчка Шыдлоўка, што далей упадае ў Белую. Уздоўж тае рэчкі знаходзілася некалькі старажытных паселішч. Сведчыць аб гэтым перапаленая, чорная зямля, косці ды прадметы, якія выворвалі гаспадары каля ракі Шыдлоўкі. Жыхары называюць гэтае даўняе паселішча „Дэсэтідвуоркі" (адно з іх існавала ў вытоках Шыдлоўкі; пацвярджэнне гэтаму маглі б даць археалагічныя раскопкі). „Дэсэтідвуоркі" даказваюць існаванне густога насялення ў гэтых ваколіцах, яшчэ перад „валочнай памерай", арганізаванай каралевай Бонай („памера" пачалася з 20-ых гадоў XVI ст. і трывала на працягу ўсёй палавіны таго стагоддзя). Мабыць, толькі тады ўсе „Дэсэтідвуоркі" былі сабраны ў адно сяло і Парцава атрымала сваё сённяшняе месцазнаходжанне, уздоўж старажытнага шляху з Бельска ў Камянец (магчыма, што і перад XVI ст. уздоўж „камянецкага гасцінца" існавала нейкае паселішча).

Каля 1540 г. Парцава разам з пяццю іншымі вёскамі (Аўгустова, Відава, Спічкі, Стрыкі, Шасталы) было надзелена гораду Бельску і ад тае пары лічыліся сялом „месцкім" або „прадмесцем". Жыхары „месцкіх" вёсак апрача таго, што карысталіся пэўнымі мяшчанскімі прывілеямі, былі абавязаны выконваць некаторыя работы для дабра горада (рамонт гарадскіх вуліц, ачышчэнне горада, выбраныя рамесніцкія паслугі).

Першую пісаную вестку пра Парцава прыносіць „Люстрацыя Падляшскага Ваяводства" з 1576 г. Даведваемся з яе, што „sioło Piotrowo — w niem włók 45 gruntu dobrego, z których płacą czynszu po gr 50, pacit lit. kop. 37/30". Другая форма назвы Парцава — Пятрова паходзіць ад імя чалавека, які рабіў тут валочную памеру (у 1661-64 г.г. „Parcewo alias Piotrowo"). Апрача 45 валок зямлі Парцава мела яшчэ пэўны абшар г.зв. „засценка". Частка яго была ў II пал. XVI ст. прычынай канфлікту паміж жыхарамі Парцава і ўласнікам Леўкаў Янам Есманам. Жыхары склалі абгрунтаваную скаргу на Я. Есмана, дамагаючыся ад яго вярнуць ім сем моргаў добрай зямлі.

Цяжка сказаць, як тады закончылася гэтая справа. Але ведаем, што Парцава ніколі не страціла праў на гэтую зямлю. Наогул добрыя землі Парцава спрыялі развіццю вёскі і яна стала неўзабаве адной з багацейшых вёсак ў наваколлі Бельска.

Войны і розныя няшчасці XVII ст. прыносяць вялікія знішчэнні ў гаспадарцы вёскі і спустошэнне насельніцтва. Да сёння захавалася памяць пра абязлюдненне суседніх Спічкоў у час шведскіх войнаў. Тое ж сама датычылася, пэўна, і Парцава.

XVIII стагоддзе, асабліва яго другая палавіна, прыносіць паступовую нармалізацыю эканамічнай і дэмаграфічнай сітуацыі Бельшчыны, а ў тым ліку і гарадскіх вёсак Бельска. У 1744 г. кароль Аўгуст III пацвярджае шматлікія прывілеі Бельска, таксама адносна сёл „месцкіх". Гэта дае стымул для іх развіцця.

У 1780 г. Парцава налічвала 91 заселеных хат. Найбольш пражывала тут родаў з прозвішчамі: Асеннік, Мойсік, Фёнік, Фрыз (сёння Прызовіч), Войда, Поліян (Поліянік, сёння Полоўянюк), Шэшко, Дэнісюк, Брэчко, Саковіч, Шміловіч. Найбольш было мужчын з імёнамі: Іван, Хведар, Грыгор, Даніла і інш. Спатыкаем таксама такія рэдкія сёння імёны, як: Клім, Якон, Хілімон, Сэмэн, Ваўрын, Панас, Ляш, Гарасім, Корніло, Мікіта, Онон, Леўко, Цімош. Як заўважаем, пераважалі рускія, царкоўныя імёны. Палякаў (паводле імёнаў і прозвішчаў) былі ў Парцаве тады адзінкі, (вядомыя: Марыанна Ліпнічанка, Марыанна Важынёва, Марына Ковнацка).

Як сведчаць вышэй прыведзены імёны і прозвішчы, большасць жыхараў Парцава ў II пал. XVIII ст. было ўсходнеславянскага паходжання. Цяжка акрэсліць, які працэнт насельніцтва належаў да праваслаўнай царквы, а які да уніяцкай. З „візыты" Уваскрасенскай царквы ў Бельску за 1727 год даведваемся, што Парцава належыла да прыходу той, уніяцкай тады царквы. Існавалі пэўныя сувязі Парцава таксама з Троіцкай царквою ў Бельску. У метрычных кнігах тае царквы спатыкаем ад 1726 г. даволі частыя запіскі аб хрышчэннях дзяцей з Парцава. Сярод царкоўных уладальнікаў зямлі на Парцаве ў II пал. XVIII ст. быў толькі адзін бельскі прыход, менавіта праваслаўны манастыр св. Мікалая („Рэвізыя горада Бельска 1779"). Можна з таго дапускаць існаванне цесных сувязей паміж манастыром і жыхарамі Парцава.

Новыя палітычныя абставіны пасля 1795 г. прыносяць таксама змены ў ладзе жыцця парцаўскай грамады. Адной з важных падзей ў жыцці вёскі ў пачатку XIX ст. было заснаванне новых могілак за вёскаю, паводле распараджэння прускіх



*Школа ў Парцаве – сёння ўжо без дзяцей.*

# ПАГЛЫБЛЕННЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**( Працяг са стар. 1 )**

Дамовіліся, што на працягу аднаго месяца абодва бакі апрацуюць свае пастулаты, спалучаць іх у адзін дакумент і ў пачатку сакавіка 1992 г. падпішуць у Беластоку пагадненне аб супрацоўніцтве ў розных культурных галінах.

У Міністэрстве асветы сустрэліся мы з намеснікам міністра Васілём Стражавым і начальнікам ВНУ Мікалаем Плескацэвічам і абмеркавалі таксама справы, звязаныя з кіраваннем выпускнікоў беларускіх ліцэяў ў Бельску і Гайнаўцы, а таксама беларусаў з іншых сярэдніх школ на навуку ў беларускія вышэйшыя установы. Апрача гэтага, паставілі справу супольнага навуковага вывучэння фальклору, гаворак, гісторыі ўсходняй Беласточчыны, Гродзеншчыны і Брэстчыны, справу курсаў павышэння кваліфікацыі ў Менску для настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны, вакацыйнага абмену вучнямі, супрацоўніцтва паасобных школ, справу паставак на Беласточчыну з Беларусі падручнікаў, літаратуры, дзіцячых газет і журналаў, дыдактычных дапаможнікаў. Усе прапановы як з нашага, так і з беларускага боку ўвойдуць у будучае пагадненне.

У Беларускім фондзе культуры сустрэліся мы са старшынёй, вядомым празаікам Іванам Чыгрынавым і ўсімі яго супрацоўнікамі. Размова датычыла розных форм дапамогі Беларускаму музею і Беларускаму таварыству. Ужо зараз па загаду фонду выкананы ўваходныя дэкаратыўныя дубовыя дзверы для Беларускага музея ў Гайнаўцы і адзінаццаць унутраных дзвярэй. Вартасць іх ідзе ў дзесяткі-дзесяткі мільёнаў злотых. Бяда ў тым, што польская таможня хоча аблажыць гэты дар мытам каля дваццаці мільёнаў злотых.

З Мінскім аддзяленнем Беларускага фонду культуры падпісалі мы дагавор аб супрацоўніцтве пры арганізацыі турыстычных паездак беларускіх груп у Польшчу. Ад прыблізнай сумы 250 рублёў, якія будзе атрымліваць Мінскае аддзяленне Фонда ад кожнага ўдзельніка экскурсій, мы будзем атрымліваць 25 %. Гэта не мала. Грошы гэтыя будуць уплочвацца на банкавы рахунак у Менску для патрэб Камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, а таксама для патрэб Беларускага таварыства.

Цікавым было таксама спатканне са старшынёй ЗБС „Бацькаўшчына" Яўгенам Лецкам, з якім мы апрацавалі і падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве. Пагадненне датычыць розных форм судзеяння і дапамогі. Аб адным цікавым праяве дапамогі хочацца мне тут сказаць. Таварыства „Бацькаўшчына" падарыла Беларускаму музею ў Гайнаўцы 150 квадратных метраў высакаякаснага шліфаванага карэльскага мармуру, якім будзе абкладзены вестыбюль будынка „Б" у Беларускім музеі ў Гайнаўцы.

 


*Агульны від і план царквы ў Парцаве.*




улад (старыя могілкі здаўна існавалі пасярэдзіне вёскі, на скрыжаванні „камянецкага" тракта і дарогі да Спічкоў). На новых могілках хавалі да I сусветнай вайны (апошні каменны крыж датаваны: 10 красавіка 1912 г.). Пераход Беласточчыны ў межы Расейскай Імперыі ў 1807 г. не закрануў асабліва адмоўна ладу жыцця гарадскіх вёсак Бельска. З часам нават іх пазіцыя была ўзмоцнена стварэннем мяшчанскіх грамадскіх праўленняў. Адным з вядомых старшынь парцаўскага МГП быў Андрэй Брэчка. Яго асоба цесна звязана з важнай падзеяй у гісторыі вёскі, пабудовай царквы св. Дзмітрыя Салунскага.

Парцава не мела раней свайго храма, сяло было прыпісана да Уваскрасенскай царквы, мабыць, з XVI ст. I тут, у пачатку сямідзесятых гадоў наспявае думка пабудаваць уласную царкву. Вёска дружна падтрымлівае ініцыятыву (м.інш. Андрэя Брэчкі і яго бацькі Назарыя) ды рашае купіць стары, вялікі шпіхлер у Шчытах (наводле іншых вестак, у Кленіках), як матэрыял на храм. Духоўныя ўлады падтрымліваюць намеры жыхараў Парцава і 24.07.1873 г., у дзень памяці св. Барыса і Глеба праходзіць урачысты акт закладкі царквы. Месцам для яе былі выбраныя старажытныя могілкі ў вёсцы. Амаль роўна праз тры месяцы, 26 кастрычніка, ў дзень памяці вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага адбылося высвяшчэнне храма. Ад тае пары царква прыгожа ўпісалася ў краявід сяла. У „Кліравай Ведамасці" Уваскрасенскай царквы за 1887 г. пра царкву ў Парцаве чытаем:

1. Царква пабудавана ў 1873 г. на сродкі жыхараў вёскі Парцава.
2. Будынак драўляны, на каменным фундаменце, разам са званіцаю, зроблена над прытворам.
3. Прастол у ёй адзін у імя святога вялікамучаніка Дзмітрыя.
4. Абсталяваннем недастатковая.

Надпіс на званіцы можа сведчыць, што яе будаваў майстар І.Г. Артэмовіч (побач прыведзена дата 30 красавіка 1897 г.). Першымі вядомымі апекунамі царквы ў Парцаве былі Андрэй Брэчка і Афанасій Рубашэўскі.

У канцы XIX ст. жыхары Парцава з'яўляюцца сведкамі эпахальнай падзеі — каля іх вёскі праводзіцца пабудова чыгункі ў Белавежу. У Парцаве пражываюць рабочыя, а кіраўнік пабудовы Яўфім Арэхаў часта бывае ў вёсцы. Дзякуючы пэўнай яго фінансавай дапамозе, пачынаецца тут у 1896 г. пабудова царкоўна-прыхадской школы. Праз год пасля яе закладкі, 26.10.1897 г., на свята храма, свяшчэннік Уваскрасенскай царквы Іпаліт Канцэвіч пасвяціў новы будынак школы. Пісаў а. Іпаліт Канцэвіч у „Літоўскіх Епархіяльных Ведамасцях": „Наогул школа сваім выглядам прыводзіць прыемнае ўражанне, служыць упрыгожаннем усяе вёскі".

Варта тут адзначыць, што школа стала на месцы даўняй, раней разабранай карчмы. Пры пабудове школы былі адкрыты шматлікія косці, што сведчыць пра існаванне тут даўніх могілак( і сёння называюць тое месца „Татарскі могілкі"). Сам матэрыял на школу паходзіў з „месцькага лесу" (каля вёскі Ягаднікі), які здаўна належаў Бельску і гарадскім сёлам.

У 1915 годзе вёска пусташэе. Пачынаецца перыяд „бежанства". Пасля вяртання ў родныя мясціны жыхары пачынаюць, ужо ў новых дзяржаўных абставінах, адбудову рэлігійнага і гаспадарчага жыцця.

Улады не дазваляюць адкрыць самастойны прыход пры Уваскрасенскай царкве ў Бельску. Парцава, разам з былым прыходам тае царквы фармальна ўваходзіць у Міхайлаўскі прыход. Першым апекуном храма ў Парцаве пасля I сусветнай вайны з'яўляецца з 1922 г. Каліcтрат Несцярук.

У 1927 г. праводзіцца рамонт храма св. Дзмітрыя, у 1935 г. жыхары Парцава ахвяравалі да яго тры новыя званы.

Перыяд II сусветнай вайны з яе вялікімі трагедыямі і цяжкасцямі прыносіць аднаўчасова аднаўленне Уваскрасенскага прыхода ў Бельску. Парцава, ізноў вернутае ў яго склад, пад канец нямецкай акупацыі. У студзені 1944 г. налічвае 447 жыхароў, пражываючых у 110 дамах. Варта адзначыць, што ў перыяд нямецкай акупацыі не спынiла дзейнасці школа ў Парцаве, з тым што навучанне пачало весціся на беларускай мове. Вучыла ў школе сужонства: Ілля (нар. 1911 г. у Клімкавічах) і Наталля (нар. 1911 г. у Вільні) Федаровічы.

Жыхары Парцава яшчэ адразу пасля заканчэння II сусветнай вайны былі ўласнікамі вялікіх землеўладанняў. Налічвалі яны каля 1230 га. Апрача наваколля вёскі, землі Парцава знаходзіліся на Галавеску, Леўках, Грыневічах, Відаве, Орлі, Антанове. Празмернае абцяжванне вёскі падаткамі і абавязковымі пастаўкамі (звязанае з планаванай арганізацыяй бельскага ПГРу) пасля II сусветнай вайны прывяло гаспадарку сяла ледзь не да руіны. Некаторыя гаспадары, не могучы выплаціцца, аддавалі зямлю ў дзяржаўны фонд. Даходзіла нават да адмовы плаціць падаткі. I так, раней адна з багацейшых вёсак Бельшчыны стала паступова бяднець і абяздлюднівацца.

Сваю царкву, нягледзячы на розныя нягоды, жыхары заўсёды стараліся утрымліваць у парадку. Клапатлівасць благачыннага і адначасова настаяцеля Уваскрасенскай парафіі а. Георгія Такарэўскага сведчыць аб яе выглядзе.

Царкоўка св. Дзмітрыя стаіць да сёння на ўзгорачку, здалёк паблісківаючы ў сонечныя дні сваім высокім купалам. Навакол царкоўкі супакой знаходзяць адыйшоўшыя ў вечнасць...

**М.С. і Р.С.**

***

Прыблізная вартасць гэтага дару 200 мільёнаў злотых.

Усе нашы беларускія партнёры прынялі запрашэнне прыехаць на агляд „Беларуская песня'1992", які адбудзецца 29 лютага-1 сакавіка 1992 г. у Беластоку і ўсе паабяцалі каштоўныя ўзнагароды для ўдзельнікаў агляду.

Сярод гасцей будзе таксама знакаміты беларускі кампазітар Ігар Лучанок, у якога правяла наша дэлегацыя вельмі прыемны вечар з добрым пачастункам і добрымі мелодыямі.

Не напісаў я дэталёва аб змесце нашых дагавораў з паасобнымі ўстановамі і арганізацыямі таму, што хочам усе тэксты гэтых пагадненняў апублікаваць у „Ніве" ў пазнейшым часе.

Пры нагодзе хачу падзякаваць усім членам дэлегацыі за выключную дысцыпліну, працавітасць і адданасць справе. Адначасна хачу паінфармаваць, што ў сувязі з крызісным станам касы Беларускага таварыства паездку сфінансавалі яе ўдзельнікі. Датычыць гэта начлегаў у Гародні і платы за бензін, які зараз каштуе ў Беларусі пяць рублёў для замежнікаў і паўтара рубля для грамадзян Беларусі за літр. Мы, зразумела, куплялі яго з велізарнымі цяжкасцямі па камерцыйнай цане. З прыкрасцю сцвярджалі мы, што амаль усюды — як па дарозе, так і ў Гародні ды ў Менску — бензакалонкі закрыты. Здзіўляе гэта тым болей, што беларускія нафтавыя заводы перапрацоўваюць 65 мільёнаў нафты ў год. Аднак, у выніку хаосу, які апаноўвае ўсе сферы гаспадаркі, у краінах былога СССР забеспячэнне таварамі, у тым ліку і бензінам, вельмі, вельмі мізэрнае. Усе гавораць, што гэта толькі пачатак кепскага. Пабачым.

Паездку нашу, нягледзячы на цяжкасці, лічу адной з найбольш удачных сярод ста пяцідзесяці паездак, якія адбыў я ў Беларусі між 1957 і 1992 годамі.

**АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ**

***

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV.СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

### ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**8.Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы — працяг**

**Лацінізмы.1**

Лацінскія словы інтэнсіўна пранікалі ў беларускую мову ўжо ў XIV-XVII ст.ст. Траплялі яны ў беларускую мову непасрэдна (у той час лацінская мова выкарыстоўвалася ў дыпламатычнай перапісцы, на ёй часткова складаліся земскія прывілеі, вывучалася яна ў брацкіх школах), або праз польскую мову. Выкарыстоўваліся тады такія лацінізмы, як нпр.: *аўтар, гонар, доктар, каляндар, літара, нацыя, прафесія, тэкст, фабула* і інш.

У беларускай мове вельмі многа лацінскіх слоў паявілася ў XX ст.

Большасць лацінізмаў — гэта тэрміны:

— грамадазнаўчых навук: *абарыген, дыктатар, дэпутат, імперыя, партыя,*
— мовазнаўства: *асіміляцыя, афікс, узус, флексія,*
— літаратуразнаўства: *легенда, сатыра, фабула,*
— мастацтвазнаўства: *аплікацыя, арэна, капэла, рэпетыцыя,*
— філасофіі і логікі: *абсалют, аргумент, дэдукцыя, пастулат,*
— батанікі, анатоміі, біялогіі, заалогіі, фізіялогіі: *арганізм, бацылы, біцэпс, вегетацыя, каштан,*
— медыцыны: *ангіна, вірус, інфаркт, рэцэпт,*
— астраноміі і геаграфіі: *абсерваторыя, арбіта, вулкан, глобус, кантынент, планета,*
— фізікі і хіміі: *амплітуда, бор, вібрацыя, калорыя,*
— матэматыкі: *вектар, радыус, сінус,*

Лацінізмы звязаны таксама і з іншымі лексіка-семантычнымі групамі, як нпр.:
— тэхніка: *генератар, калектар, матор,*
— навучанне: *абітурыент, аспірант,*

( Працяг на стар. 8 )



 

# Іх папарацьь-кветка або ў амерыканскіх беларусаў

**ПАСТСКРЫПТУМ.**

Вера з Францішом завезлі мяне ў аэрапорт. Было 27 верасня 1990 года. Я цешылася, што еду дахаты, а ўсё ж на душы было неяк маркотна. Сумкі прыняла ў багаж працаўніца аэрапорта, якой мы паказалі білет. Ніякіх мытнікаў не было. Затое перад уваходам у самалёт трэба было прайсці востры кантроль. На экране маленькага каляровага тэлевізара я ўбачыла як на далоні ўсё, што было ў маленькай сумачцы спадарожніцы, стаячай перада мной. Пасля „прасвятліллі" і маю. Даўганогі індус ці пакістанец у мундзіры сваёй краіны (бадай, нейкая антытэрарысцкая, а мо хутчэй — спецгрупа па барацьбе з кантрабандай наркотыкаў?!) вельмі дакладна абмацваў і пературасаў кішэні ў нейкага хлопца. Кішэняў на яго штанах і куртцы было не менш пятнаццаці, ён як бы спецыяльна правакаваў правяраючых, каб шукалі менавіта тут, і я была амаль упэўнена: тое,што трэба было схаваць, знаходзіцца ў яго багажы.

Я ішла па калідоры ў паказаным мне напрамку і не заўважыла, што ўжо апынулася ў самалёце. Мінут праз дваццаць наш „Боінг" ляцеў над акіянам на ўсход.

Ззаду асталася Амерыка. Іншая, чым тая, якую ўяўляла я раней. Не чужая і далёкая, а блізкая, бо поўная сяброў і добразычлівых людзей. Думкі клубяцца ў галаве, быццам хмары за вакном самалёта. Успамінаю сустрэчы, размовы. І раптам перада мною ўсплываюць вочы, поўныя блакіту і дабрыні. Гэта ўсміхаецца мне 75-гадовы Антон Шукелайць, калі задаю яму зусім недарэчнае на Статуі Свабоды (!) пытанне: „Спадар Антон! Калі я была малая, Вы мяне, пэўна, на руках насілі?" Колішні наш сусед і бацькаў сябра глядзіць на мяне сваімі шчырымі вачыма і адказвае развэжліва: „Не, на руках я цябе не насіў, але на калені то ты мне часта ўзлазіла..."

x x x

Мы з Данчыкам падлічылі, што на працягу аднаго месяца я пабывала ў 9 штатах ЗША. І вось пасля гэтага калейдаскопу ўражанняў, пасля каляровай мітусні я вярталася да нашага шэрага, штораз шарэючага жыцця. Але тут — дом. Тут тое, што страцілі людзі, з якімі давялося мне сустракацца ў Амерыцы. Тое, чым мы багацейшыя, а яны — бяднейшыя. У снах ім явіцца да сёння далёкая сінявокая Беларусь — іх сапраўдны дом. Дзякуй ім, што будучы за тысячы кіламетраў ад роднай зямлі, яны засталіся беларусамі і ўпарта шукаюць сваю, беларускую папарацьь-кветку, не абмінаючы пры гэтым і старанна збіраючы тыя кветкі і зёлкі, што трапляюцца на іх жыццёвым шляху.

Калі сваімі замалёўкамі мне ўдалося хоць крыху наблізіць чытачу гэтых людзей — я нєнадарма патраціла час.

x x x

Каб не мучыць чытача, я вырашыла, што буду даваць асобныя адрэзкі „Амерыкі" не кожны тыдзень, а праз тыдзень. Зрэшты, вядома ж, як цяжка сакратару рэдакцыі пазбірацца з уласнымі думкамі. Высветлілася, што лепш было б усё даць адразу. А так 30 адрэзкаў расцягнуліся на больш чым год, хаця я зусім не рэкардсменка па колькасці амерыканскіх рэпартажаў. У іншых было іх шмат больш!

Калі я пісала свае нататкі пра амерыканскіх беларусаў, дык увесь час атрымлівала ад бліжэйшых чытачоў „Нівы" і далейшых — са Злучаных Штатаў, Германіі, Аўстраліі — шмат водгукаў. Былі яны амаль усе вельмі прыязныя. Тыя людзі, з якімі я бачылася даволі рэдка (знаёмыя з Менска, Варшавы), пры сустрэчы падкрэслівалі: „Чытаю, чытаю..." — і вочы іх цяплелі. У снежні мінулага года здзівіў мяне міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка: „Хочаце, скажу, пра што было ў апошнім адрэзку?!" — але я спалохана



*–Спадар Антон!, Калі я была малая, Вы мяне, пэўна, на руках насілі?*
*– Не, на руках я цябе не насіў, але на калені то ты мне часта ўзлазіла...*

# МЕСЦА ДЛЯ НАС

**( Працяг са стар. 1 )**

Толькі на некалькі гадоў пазней зразумеў я механізм беларускай варожасці да „Салідарнасці". Тым не менш і сёння лічу, што распачлівая падтрымка гэтак званай народнай улады была нечым бессэнсоўным, бо ненадзейным. Правёўшы большасць свайго дарослага жыцця ў карэнняй Польшчы, я лепш разумею палякаў і тое, што камунізм у гэтай краіне мусіць упасці. Нават ваеннае становішча я ўспрыняў як часовае толькі запыненне гэтага ўпадку.

*— Ці таксама моцна быў ты ў гэтым перакананы, седзячы ў турме?*

**А. Латышонак:** Спачатку трохі баяўся, што хоць перамога непазбежная, то я сам магу яе не дачакацца. Але хутка пабачыў, што ўсё тое ваеннае становішча — гэта толькі свайго роду гульня між польскай уладай і грамадствам накшталт „stary niedźwiedź mocno śpi", з Брэжневым у ролі мядзведзя.

*— Але ж не за дзяціную гульню ты папаўся?*

**А. Латышонак:** Арыштавалі мяне за дзейнасць у падпольнай „Салідарнасці", галоўным чынам за кальпартаж нелегальных бюлетэняў. Беластоцкая бяспека, якая лепш за ўдзельнікаў гэтай жа дзейнасці ў ёй арыентавалася, арыштавала перад першым мая восемдзесят другога натоўп маладых людзей, каб прадэманстраваць, што і ў Беластоку ёсць свая экстрэма. Пратрымалі нас па некалькі месяцаў, а то і больш — мяне велікадушна адпусцілі перад каталіцкімі Калядамі, хаця працэс мой цягнуўся яшчэ да амністыі ўвосень восемдзесят трэцяга.

*— Якую ты знайшоў рэчаіснасць пасля выхаду з турмы, бо ўсё-ткі восем месяцаў — немалы кавалак часу?*

**А. Латышонак:** Даволі сумнай. Амаль год споўдаўся я без працы, бо са школы мяне выкінулі, а іншай працы нейк для мяне не было. Тады вырашыў я вярнуцца ў Кракаў, дзе атмасфера была намнога свабаднейшай. Жыццё ў Беластоку без яснай перспектывы спіхала мяне ў нейкае камбатанцтва, успаміны толькі што перажытага, а мяне, хоць я і гісторык, больш цікавіла будучыня.

*— Але гэтым самым ты зноў пакінуў нашу Беласточчыну?*

**А. Латышонак:** Тое ж самае, з дакорам, сказаў мне тады Сакрат, з якім я пазнаёміўся зараз пасля выйсця з турмы.

*— Мусібыць, набліжаемся да пачаткаў беларускай палітычнай думкі ў пасляваеннай Беласточчыне?*

**А. Латышонак:** У той самы час пазнаёміўся я з Юркам Туронкам. Раней ці пазней свой трапіць на свайго, хоць, азіраючыся назад, мушу сказаць, што ішло гэта вельмі павольна. Думаю, што калі б ужо тады сустрэўся я з Янам Максімюком, Лёнікам Тарасэвічам і Генікам Міpановічам, усё-ткі не пакінуў бы Беластока. А так, без іх, беластоцкая моладзь з'явілася мне больш тутэйшай, чым беларускай. Толькі з гэтак званым другім БАСам, у другой палове васьмідзесятых, адчуў я сябе поўнасцю сваім між сваімі. І з імі дачакаў я канца камунізму.

*— Чаканне гэтае не было ж бяздзейным?*

**А. Латышонак:** Як ні дзіўна, беларусы, хоць і карыстаюцца апініяй найбольш скамунізаваных у Польшчы, здолелі стварыць пад канец васьмідзесятых сваю, нікому не падпарадкаваную апазіцыю з непадцэнзурнымі выданнямі, апазіцыю, заўважальную на агульнапольскім фоне. Гэта дазваляла яе ўдзельнікам чакаць перамогі „Салідарнасці" як сваёй.

*— І яна прыйшла...*

**А. Латышонак:** Доўгачаканая перамога заўсёды прыносіць расчараванне, але тое, як нас патрактавалі салідарнікі, было самым страшным шокам у маім жыцці. Ужо раней я нейк інстынктыўна прадчуваў нешта нядобрае, сэнсу чаго так і не ўдалося мне да канца разгадаць, але таго, што працягнутай да нас рукі не акажацца — не чакаў ніколі.

*— Значыць — вайна?*

**А. Латышонак:** Калі выйшлі мы ад Сакрата Яновіча, з пасяджэння Беларускага клуба, на якім прынялі пастанову аб самастойным удзеле ў выбарах, будучыня была для нас невядомай. Была ўжо глухая ноч, наўкол распасціраўся вялікі горад Беласток, а нас было ўсяго жменька.

замахала рукамі.

Не гавары пра сябе кепска — іншыя гэта зробяць лепш, раяць разумныя людзі. Але мне аж карціць сказаць і пра пару прыкрых момантаў. У адным з адрэзкаў (пра тое, як апранаюцца амерыканкі) я асцерагала чытача, каб не думаў, што ў Амерыцы апранаюцца так, як у шматсерыйным фільме „Дынастыя", які, на маю думку, надта прыхарошвае амерыканскую рэчаіснасць. Бадай, ад таго часу Сакрат і „басаўцы" пачалі называць мае замалёўкі „Дынастыяй", хаця я скончыла на трыццаці адрэзках, а „Дынастыі" было ўжо ў нас больш ста дваццаці. Жонка аднаго з маіх маладых рэдакцыйных калег не вытрымала і ўжо ў чэрвені мінулага года напісала ў рэдакцыю ліст:„Паздраўляю! Мару пра дзень, калі вазьму „Ніву" ў рукі, адкрыю, прачытаю загаловак „Іх папарацькветка або У амерыканскіх беларусаў", а ніжэй будзе подпіс: Канец або Працягу не будзе!"

Дарагая спадарыня Алінка! Вашы мары нарэшце збыліся: сёння Вы прачытаеце: „Канец". (Мяркую, што Вы яшчэ не перасталі чытаць маю „Амерыку"?!). Калі сапраўды толькі гэтага Вам не хапала да шчасця — дык Вы цяпер — шчаслівы чалавек.

І была яшчэ адна жанчына з Менска, якая скваплівa перадала мне, што нейкі яе знаёмы журналіст надта крытычна ацаніў маё пісанне (занадта простае, чытай: прымітыўнае). „Калі не падабаецца, няхай не чытае! — адгыркнулася я. Наша госця пачала тлумачыцца, што затое яна выразвае і камплектуе ўсе адрэзкі. Злосць, аднак, ува мне нарастала:— Журналіст — не долар, не мусіць падабацца кожнаму!"

Некаторым нават імпануе, калі пра іх шмат гавораць. Добра ці кепска — гэта ўжо менш важна. І, пэўна, уцешыла б іх, што нават Сідар Макацёр — наогул даволі маўклівы — і той не вытрымаў, адазваўся: тручы мак у сваёй макутры для апошніх „Піражкоў з макам", як заўсёды сугестыўна, намякнуў, што ў амерыканскіх рэпартажах Ада Чачуга прыгажосць прыроды апісвае. Праўда, чыстасардэчна прызнаўся мне, што не прачытаў ніводнай часткі, а аглядаў толькі здымкі. Не чытаў, а ведае (здалося яму)! Не ўпершыню гэта, зрэшты. У нядаўніх „Успамінах" яму здалося, што некалі, не ўмеючы зусім іграць у шахматы, „...абыграў найлепшую беластоцкую шахматыстку, якой, несумненна, была Ада Чачуга"(??!), быццам не заўважаючы банды „секундантаў", што абступілі нас з усіх бакоў і перасоўвалі фігуры па шахматнай дошцы як хацелі: правучыць бабу!

Ну і хай сабе! А я і так яшчэ крыху папішу. І ў шахматы пайграю.

**Канец**

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота Веры Бартуль**

P.S. Пасля напісання сваіх замалёвак агледзелася я, што зрабіла прынамсі тры мерытарычныя памылкі. Значыцца, было іх яшчэ больш. Вельмі перапрашаю ўсіх зацікаўленых!

Анечцы Бартуль выказваю вялікую падзяку за дапамогу пры друкаванні здымкаў.

Галоўнаму рэдактару „Нівы" Віталю Лубу дзякую за тое, што даслоўна выціснуў з мяне гэтыя тэксты і нават дараваў мне іх бабскі, пляткарскі стыль.

**А.Ч.**

# ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

Управа Літаб'яднання „Белавежа" арганізуе літаратурны семінар, прысвечаны выдадзеным у мінулым годзе зборнікам „Імгненні" Янкі Целушэцкага і „Лісты блакітных успамінаў" Юркі Баены. Сустрэча адбудзецца ў будынку Філіяла ВУ (вул. Лінярскага 4), пакой 42, у нядзелю 16 лютага, а гадз. 10.00. Арганізатары запрашаюць усіх прыхільнікаў беларускага паэтычнага слова.

# НАШЫ КАРАНІ

## XXVIII. КНЯЗЬ-ЧАРНЕЦ

Быў Войшалк сынам князя літоўскага і навагрудскага Міндоўга. Нарадзіўся каля 1223 года, усё дзяцінства і юнацтва выхоўваўся ў акружэнні літоўцаў-язычнікаў, якія на чутку пра хрысціянства пагардліва ўсміхаліся, бо яно, маўлялі, толькі для баязлівых і слабых, а для адважных і моцных цалкам непрыгоднае. І Войшалк імкнуўся быць адважным і моцным: на яго вачах у братазабойчых войнах паміж літоўскімі плямёнамі ці нават у сямейных калатнях бралі верх толькі моцныя і бязлітасныя. Гэта ж сталася і з іхнім родам. Каб не загінуць пад нажамі суродзічаў, яны ўсім домам, з баярамі і службаю, уцяклі ў 1246 годзе з паганскай літоўскай роднай Руты ў праваслаўны беларускі суседні Навагрудак. Тут прынялі святое хрышчэнне па праваслаўнаму абраду, і навагрудскае веча аддало іх у падмогу свайму старэнькаму і, відаць, беспатомнаму князю Ізяславу. Перабежчыкі шчыра і ахвярна служылі новай радзіме.

Да прыняцця хрышчэння Войшалка рыхтавала ягоная маці, праваслаўная князёўна цвярская. Ужо ў юнацтве на ўражлівае сэрца княжыча глыбока запалі малітвы, палюбіліся яму таксама набажэнствы ў велічным навагрудскім Свята-Барысаглебскім саборы, ён уважліва ўслухваўся ў пропаведзі свяшчэннікаў і ў яго свядомасці ўсё яскравей явіўся вобраз Творцы, станавілася бліжкім Хрыстова вучэнне, нараджалася пачуццё пашаны да другіх людзей, міласэрнасць, пакорлівасць, патрэба малітвы. Ён навучыўся чытаць, каб самому спазнаваць Свяшчэннае Пісанне. Пераўтварэнне ў хрысціяніна не перашкаджала яму ахвярна абараняць ад ворагаў Навагрудскае княства і яго насельніцтва, ён стаў сапраўдным рыцарам Праваслаўя.

Калі князь Міндоўг адступіўся ад праваслаўнае веры і за каралеўскую карону перайшоў у каталіцызм, Войшалк разам з іншымі навагрудцамі сурова асудзіў гэты ўчынак і падаўся ў праваслаўную Галічыну. Там у Палонінскім манастыры прыняў манаскі пострыг і імя Лаўрэнцій, панароднаму — Лаўрыш. Спачатку малады юнак накіраваўся на св. Гару Афон, але з-за вайны на Балканах мусіў вярнуцца. Па трох гадах з групай манахаў прыйшоў на Навагрудчыну, заснаваў паблізу граніцы з Літвою вялікі мужчынскі манастыр і разам з манашаскай брацціо аддаўся прапаведванню Праваслаўя сярод паганаў-літоўцаў.

Калі пасля гвалтоўнай смерці Міндоўга і яго двух малодшых сыноў (іх пазбавіў жыцця ў асабістай помсце нальшанскі князь Даўмонт) Навагрудскае княства апынулася ў небяспецы і навагрудчане благалі Лаўрыша-Войшалка выйсці з манастыра і стаць на чале дзяржавы, Войшалк паслухаўся іх: пакінуў манастырскую келлю і ўзначаліў княства. За некалькі гадоў цяжкага змагання разбіў непрыяцеляў, сабраў пад уладаю Навагрудка большасць беларускіх земляў, умацаваў еднасць і граніцы дзяржавы.

І як чарнец-місіянер, і як князь-ваяўнік Лаўрэнцій-Войшалк заўсёды і ўсюды клапаціўся пра пашырэнне і ўмацаванне Праваслаўя, пабудову новых храмаў, павелічэнне колькасці духавенства, забеспячэнне яго літургічнымі кнігамі і іншым царкоўным абсталяваннем. Сведчаць пра тое багатыя археалагічныя знаходкі ў Навагрудку і іншых гарадах Навагрудскага княства, а таксама Евангелле, багата аздобленае мініяцюрамі, якое было спісана і аздоблена мініяцюрамі ў часы Лаўрэнція-Войшалка і належала заснаванаму ім Лаўрышаву манастыру. Цяпер яно захоўваецца ў Кракаве.

Калі дзяржава стала вольнай і моцнай, Лаўрэнцій-Войшалк перадаў княжанне свайму швагру, князю холмска-дарагічынскаму Шварну Данілавічу, а сам зноў замкнуўся ў манастыры. Служэнне Творцу ён лічыў важней за ўсё на свеце, а чарнецкі чын быў яму мілей усяго. Нават калі ўзначальваў дзяржаву як князь, то — паводле летапісу — паверх багатых княскіх строяў заўсёды насіў ён чорны манаскі клабук.

Загінуў Лаўрэнцій-Войшалк у 1268 годзе ад рукі зайздроснага і помслівага князя галіцкага Юрыя, свайго кума. Яго подзвігі: хрышчэнне многіх літоўцаў у Праваслаўе, умацаванне праваслаўнай дзяржавы — княства Навагрудскага, заснаванне і забеспячэнне славутага Лаўрышаўскага манастыра — сталі незнішчальнымі помнікамі яму.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

---

Зрабілася мне нейк страшнавата. Цяпер сам здзіўляюся, што змаглі мы зрабіць такі зрух.

*— За табою як удзельнікам беларускага палітычнага руху два гады дзейнасці ў БДА. Як ты сёння ацэньваеш гэты перыяд?*

**А. Латышонак:** Нашу дзейнасць нельга ацэньваць па-за рамкамі грамадства, у якім дзейнічаем. Гэтыя два гады былі часам бурлівых перамен як у цэлай краіне, так і на Беласточчыне. На жаль, беларускае грамадства як цэласць не здолела знайсці сабе месца ў III Рэчыпаспалітай. Жыве яно мінулым і таму згуртаваным у Беларускім дэмакратычным аб'яднанні людзям цяжка пераканаць у нечым сваіх суродзічаў. Як я ўжо сказаў раней, разумею механізм падтрымкі, а нават атаясамлівання беларусаў з камуністычнай сістэмай. Інакш і быць не магло. Не мяняе, аднак, гэта факту, што камунізм зваліўся сам па сабе. Не спляжыла яго ні „Салідарнасць", ні сам Папа Рымскі, бо даканаўся ён у адзін дзень у шматлікіх краінах, дзе апазіцыі і следу не было. Сістэма звычайна выкарыстала ўсе свае магчымасці. Тым часам беларускае грамадства ў Польшчы быццам абараняе яшчэ гэты прывід, галасуючы за камуністаў у спадзяванні, што яны, маўляў, абароняць, а то і рэвалюцыю зробяць ды зноў будзе „парадак". Гэткае стаўленне да рэчаіснасці спіхае нашых людзей у бязвыхаднасць, у безнадзейнасць. Ніякай рэвалюцыі ў Польшчы не будзе. Не дапусціць да гэтага новы дзяржаўны апарат і касцёл, у магутнасці якога, думаю, пераконваць нікога не трэба. Такім чынам БДА, мэтай якога знайсці для беларусаў месца ў новай рэчаіснасці, не надта магло распрастаць свае крылы. Усё-ткі думаю, што здолелі мы стварыць трывалы рух, які ўжо сяго-таго дабіўся і з якім лічацца не толькі ў нашым грамадстве, але наогул на палітычнай арэне як у Польшчы, так і ў Беларусі.

*— Сказаў ты, што беларускае грамадства жыве мінулым. Як, па-твойму, БДА мае дапамагчы гэтаму грамадству знайсці месца ў новай рэальнасці?*

**А. Латышонак:** Цяперашняя сітуацыя нагадвае ў нейкай ступені час пасля адмены паншчыны ў XIX стагоддзі. Тады мужыкі не ведалі, што з сабою рабіць без панскага загаду: калі сеяць, дзе прадаваць, што рабіць з грашыма. Такая сітуацыя трывала некалькі гадоў, многія страцілі свае гаспадаркі — хто праз бяздарнасць, хто праз п'янку, але ўсё-ткі большасць навучылася, як быць панам самаму сабе. Тое ж будзе і цяпер, хоць і не адразу. БДА павінна гуртаваць тых, хто выратавацца хоча сам ды не чакае, што нейкая ўлада за яго гэта зробіць. Думаю, што нашы людзі ачухаюцца і стануць змагацца за сваё. Ёсць такі верш Багушэвіча „Дурны мужык як варона". Гэта наогул пра нас, беларусаў. Не вінавачу людзей за тое, што не могуць яны спасцігнуць новую рэчаіснасць. БДА заснавалі людзі, якія найбольш вучыліся ў глыбі Польшчы ды дзякуючы гэтаму раней за сваіх сваякоў зразумелі, да чаго ідзе Польшча. Думаю, што з часам зразумеюць гэта і іншыя. БДА не закладалася на год-два, а з думкай пра будучыню; цяпер, калі спынілася ўрэшце выбарчая карусель, можам узяцца за працу, якую ад пачатку мелі намер весці — шукаць аднадумцаў, рыхтаваць людзей да грамадска-палітычнай працы, выхоўваць моладзь. Выбары для кожнага палітычнага руху — справа надзвычайнай важнасці, але перамога ў іх не ёсць мэтай для самое мэты. Няцяжка выйграць выбары ў нейкай гміне (тэрытарыяльныя ж самаўрады найбольш нас цікавяць) ды перанясць уладу — намнога цяжэй знайсці людзей, стварыць гаспадарчую праграму і сапраўды нешта зрабіць для гэтай жа гміны. Дзеля гэтага будзем працаваць.

*— Абы толькі праца гэтая прынесла пажаданы плён!*

**А. Латышонак:** Плён ужо ёсць. Нашай мэтай не было стварэнне палітычнай партыі для самоее ідэі, але зрух у беларускім грамадстве. Ніхто ўжо не скажа, што нас няма, а такое часта даводзілася чуць два гады таму. Беларуская меншасць у Польшчы стала прызнаным іншымі грамадствам. І хоць часта не хапае нам еднасці, я ўпэўнены, што мы ўжо выратаваліся ў нацыянальным сэнсе — зрабілі мы гэта выключна сваімі сіламі. Цяпер мусім гаспадарча замацавацца і гэта магчыма. За ўсходняю мяжою з кожным днём магутнее незалежная Беларусь — не будзем ужо бездапаможнымі.

*— Дзякую за размову.*

**Гутарыў**
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

Управа „Белавежы" інфармуе, што нашыя беларускія паэтэсы **Надзея Артымовіч і Зося Сачко** прыняты ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Сардэчна віншуем!

**(я.ч.)**




## ДАКАЖЫЦЕ, ШТО Я „ВЯРБЛЮД"!

У „Ніве" н-р 51 ад 22 снежня 1991 года (гл.„Адгалоскі") у адказ на маё пытанне „Чаму я вярблюд?" Я.Ц. баламутна пераказаў абвінавачанні мяне ў арганізаванні і правядзенні конкурсаў сярод школьнікаў. Не напісаў, аднак, ніякіх фактаў, якія маглі б пацвердзіць маю віну. Калі даецца адмоўная ацэнка, выказваецца сваё незадавальненне і т.п. нават педагогамі, гэта не доказ „вярблюжасці". Калі публічна абвінавачваюцца канкрэтныя асобы, дык культурныя людзі абгрунтоўваюць гэта канкрэтнымі доказамі. Відаць, Я.Ц. не можа гэтага сабе ўцяміць. Ён пачуў, напісаў і паставіў кропку... і пэўна задаволены, што я — „вярблюд". Калі так, дык звяртаюся з просьбай да шаноўных настаўнікаў, якія на канферэнцыі крытычна выказваліся адносна маёй ролі ў конкурсах, каб на старонках „Нівы" прывялі аргументы сваіх выказванняў, як „непаважна адносіўся да сваіх службовых абавязкаў і да саміх настаўнікаў спомнены працаўнік ГП" (значыцьРусачык павінен быць пратакол з канферэнцыі. Таму патрабую публікацыі ў „Ніве" выняткаў з гэтага пратаколу, якія адносяцца да конкурсаў і маёй у ім „віны". Маю права гэтага дамагацца з увагі на публічныя абвінавачанні на канферэнцыі і на старонках „Нівы". Калі не будзе канкрэтных аргументаў, тады закіды адносна мяне лічу беспадстаўнымі і бескультурнымі. У арганізаванні і правядзенні конкурсаў ГП БГКТ для школьнікаў браў я ўдзел некалькі гадоў. Я даволі добра ў гэтым сарыентаваны і лічу, што ўзнікшыя непаразуменні маюць свае прычыны, якія варта было б высвятліць. Падазраю, што толькі некаторым асобам надта не падабаецца мая заангажаванасць у конкурсах і яны намагаюцца пазбыцца мяне. Відаць, не патрапяць зрабіць гэта больш культурна, або хітрэй. Мала „абзацаў" некага „вярблюдам", але трэба і даказаць. Інакш выходзіць гэта на звыклы паклёп.

**Ян Мордань,**
**штатны працаўнік**
**ГП БГКТ**

P.S. „На канферэнцыі вырашана ў далейшым праводзіць конкурсы для школьнікаў, але ўжо без Я.Морданя" (так паінфармаваў Я.Ц.). Такое рашэнне смешыць мяне. У сувязі з тым заяўляю, што калі толькі змагу, буду прысутным пад час правядзення конкурсаў для школьнікаў і буду актыўным пры гэтым. І што? Возьмуць (хто: педагогі, паліцыя?) мяне за шыварат і выкінуць?



**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

## ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**( Працяг са стар. 3 )**

*экзамен,*
— рэлігія: *абат, алтар, парафія,*
— ваенная справа: *агрэсія, легіён, рэвальвер.*

Лацінізмы выдзяляюцца сваёй будовай. Можна іх пазнаць па суфіксах: **-ат** (*канглamerат*), **-ацыя** (*дэкламацыя*), **-ент** (*пігмент*), **-ур** (*цэзура*), **-ум** (*акварыум*), **-ус** (*сінус*). 2

У беларускай мове лацінізмы падвяргаліся розным фанетычным і марфалагічным зменам. У сувязі з гэтым выдзяляюцца сярод іх:

1. назоўнікі, якія захавалі значэнне жаночага роду і флексію на **-а**: *віла (willa), глеба (gleba), персона (persona);*

2. назоўнікі жаночага роду на **-tio**, якія ў беларускай мове выступаюць з фармантам **-цыя**: *апеляцыя (apellatio), міграцыя (migratio), селекцыя (selectio)*. Гэты ж фармант з'яўляецца прадуктыўным пры ўтварэнні назоўнікаў ад лацінскай асновы: *канкурэнцыя (concurrens), рэзалюцыя (resolutus);*

3. лацінскія назоўнікі мужчынскага роду на **-us** і ніякага **-um**, якія захавалі свае канчаткі: *вірус (virus), казус (casus), акварыум (aquarium), форум (forum)*, або страцілі: *акт (actus), курс (cursus), арышт (arrestum), дэкрэт (decretum);*

4. лацінскія назоўнікі з суфіксам **-or**, якія захавалі гэты суфікс у беларускай мове: *дыктатар (dictator), куратар ( curator), сектар (sector);*

5. лацінскія прыметнікі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання, якія ў беларускай мове субстантываваліся: *мінус (minus), максімум (maximum), мінімум (minimum);*

6. лацінскія прыметнікі на **-alis**, ад асновы якіх у беларускай мове ўтварыліся прыметнікі з суфіксам **--н**:*арыгінальны (originalis), фатальны ( fatalis), фіскальны (fiscalis);*

7. аддзеяслоўныя лацінскія ад'ектывы з суфіксам **-iv-**, якія ў беларускай мове стварылі групу прыметнікаў з суфіксам **-іўн-(-ыўн-)**: *аб'ектыўны (objectivus), актыўны (activus), калектыўны (collectivus)*.3

------------------

1 Літаратура: В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с.58-60; Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с.164-166; А.А. Станкевіч, Марфалагічнае асваенне грэцызмаў і лацінізмаў у сучаснай беларускай мове, у: Беларуская мова і мовазнаўства, Мінск 1974, с.190-201.

2. В.П. Красней,... там жа.

********************************************

## БЕЛАВЕЖА МОЖА СТАВІЦЬ НА ТУРЫЗМ

Белавежская пушча, хаця і шмат пашкоджана людской рукой, ўсё-такі астаецца лясным масівам, які можа зачараваць жыхара кожнага большага горада. У Белавежу едуць людзі не толькі з цэлай Польшчы, але і з усяго свету. Мінулы год у белавежскім турызме можна палічыць пасяховым, хаця цяжкое гаспадарчае становішча ў дзяржаве і тут дало знаць пра сябе. Праўда, калі гаварыць пра колькасць наведвальнікаў, то, безумоўна, лепшай была другая палова 70-тых гадоў ці перыяд 1985-89.

Усё ж у 1991 г. мястэчка наведала каля 94 тыс. чалавек — на амаль 20 тыс. больш, чым у папярэднім годзе. Замежных турыстаў налічана звыш 7,7 тыс. (з 48 дзяржаў). І ў гэтым выпадку назіраецца павышэнне ў параўнанні з 1990 г., хаця ўзровень з перыяду 1985-89 не быў дасягнуты. З заграніцы найбольш ехалі з былога СССР і Нямеччыны (па 1,9 тыс. чалавек), затым з Францыі (каля 750 турыстаў), а далей — з Галандыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Швейцарыі, Італіі, Бельгіі і Чэха-Славакіі.

Вобраз турызму зараз мяняецца. Не назіралася ўжо пад час канікулаў натоўпу груп школьнай моладзі. Бызцам вымела таксама маладзёжныя групы з былых сацыялістычных дзяржаў. Польскія школьнікі замест летам, масава наведвалі Белавежу ў асенні перыяд, і такім чынам кастрычнік аказаўся рэкордным месяцам (звыш 11 тыс. наведвальнікаў) у гісторыі белавежскага турызму! Шмат цяпер назіраецца ў Белавежы невялікіх груп, складзеных з членаў адной-двух сем'яў. Яны пераважна з беластоцкіх гарадоў і вёсак. Сем'ямі найчасцей прыязджаюць пабачыць пушчу і турысты з заграніцы. Так што прынамсі ў гэтым мы ўжо зраўняліся з Еўропай.

Тэкст і фота
**ПЯТРА БАЙКО**



*Тыповая карцінка з Белавежы.*

**Майстар на ўсе рукі**

## МІКАЛАЙ КАЗЛОЎСКІ

Знаёмы ён мне, пакольк парадзіліся мы і правялі свае маладыя гады ў той самай ваколіцы. Раней яго бацька быў вядомым на ўсю акругу кавалём.

Мікалай Казлоўскі з Навін у Нараўчанскай гміне. Самародны талент. Зараз нішто не значыць яму адрамантаваць аўтамашыну, трактар, матацыкл. Прызнаюся па-шчырасці: зайздрошчу яму. Вось каб мець яго тэхнічныя веды! Мікалай ведае кожную частку любой машыны: з рухавікамі і без іх. Можа адрамантаваць нават паравоз, што ездзіць па чыгуначных рэйках. Не таямнічыя для яго камбайн „Бізон", ратацыйная касілка ці іншая сельскагаспадарчая машына.

Як вядома, тэхнікі зараз прыбывае. Кожны хоча абзавесціся аўтамашынай. Селянін купляе трактар, камбайн, снопавязалку, млынок-сьрутоўнік. Раней ці пазней тэхнічныя навінкі псуюцца... Тады патрэбны майстар. Хто ведае пра Мікалая Казлоўскага з Навін, дык адразу да яго: братка, ратуй!

Пра здольнасці Мікалая да тэхнікі ведаюць не толькі ў Нараўчанскай гміне, але і ў Міхалоўскай, Гайнаўскай і Чыжоўскай, а таксама шматлікія жыхары Беластока. Людзі ж ездзяць па ўсім ваяводстве, па краіне. Машына сапсуецца недзе пад Ляўковам. Хутчэй пытаюць пра майстра. Добра, што такі якраз ёсць і што не з'ехаў на пастаяннае жыхарства ў Гайнаўку або Беласток.

Мікалай Казлоўскі са сваімі тэхнічнымі кваліфікацыямі лёгка знайшоў бы працу на любой аўтастанцыі. Ён таксама вопытны шафёр. На якіх толькі машынах не ездзіў. Мог бы быць інструктарам язды.

Але мой зямляк не захацеў падацца на „лёгкае жыццё" ў горад. Жыве ў сваёй роднай вёсцы. Вядзе невялікую гаспадарку. Любіць лес, прыроду. Замілаваны фотааматар. Пастаянны чытач „Нівы".

Мікалай не адмовіць у дапамозе зматарызаванаму. Хаця вёска Навіны невялічкая, усяго некалькі дамоў і сярод сасновага лесу, сюды амаль кожны дзень наведваецца шмат людзей. Нетутэйшыя распытваюць пра Мікалая. Маюць справу, хочуць параіцца. Або адразу дастаўляюць машыну, якая сапсавалася.

Я купіў сабе „малюха" і езджу ім чатырнаццаты год. Ці служыў бы ён мне столькі гадоў, каб не кансерваваў яго Мікалай, я сумняваюся. Можа гэты факт будзе ў нейкай ступені пацвярджэннем майстэрства майго навінскага калегі.

Адна з адметных рысаў характару Мікалая гэта неймаверна вялікая цярплівасць, калі ў машыне нешта не даецца адразу выняць, адкруціць.

— Толькі спакойна,— быццам бы чую голас майстра,— усё адрамантуем! Зараз адкрунем і ўбачым.

Калі майстар так абнадзейвае, відаць, няма чаго баяцца. Ён увесь засяроджаны. Яшчэ не ўпэўнены, у чым „загвоздка" з рухавіком.Усё яшчэ не тое, усё яшчэ шукае. Яшчэ кароткі міг — і Мікалаеў твар павесялеў. Мне адразу — камень з сэрца. Я ўпэўнены, што зноў буду ездзіць.

Зайздрошчу вопытнаму механіку!

**Ясень**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Сёлета ўдзел у дэкламатарскім конкурсе быў масавы.* **Фота М. Ваўранюка**

**Фінал дэкламатарскага конкурсу**

# АЖЫВІЦЬ РОДНАЕ СЛОВА

26 студзеня г.г. у будынку Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбыўся цэнтральны агляд конкурсу для дзяцей. Сёлета ўдзел у ім маладых дэкламатараў быў масавы. Да цэнтральнага конкурсу закласіфікаваліся 42 удзельнікі з дзевятнаццаці школ з Беластоцкага ваяводства і Гданьска.

Лаўрэатаў раённых дэкламатарскіх конкурсаў прывітаў намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі. Конкурс вяла вучаніца бельскага белліцэя Анэта Гаўрылюк. Вучні выступілі ў дзвюх узроставых катэгорыях: класы 2-5 і 6-8. У групе старэйшых выступілі 24 дзяўчынкі і адзін юнак. Сярод малодшых выступілі пятнаццаць дзяўчынак і два хлопчыкі.

Журы цэнтральнага агляду, у склад якога ўваходзілі: настаўніца з гайнаўскага белліцэя — **Алена Таболіч** (старшыня), **Яніна Чэрнякевіч** — рэдактар беларускіх радыёперадач і **Янка Целушэцкі** — супрацоўнік рэдакцыі тыднёвіка „Ніва", мела нялёгкую задачу. Амаль усе выступленні маладых артыстаў былі на высокім узроўні. Усе ўдзельнікі былі добра падрыхтаваны моўна, іх інтэрпрэтацыя была мастацка трапнай. Журы найвышэй ацаніла тых дэкламатараў, якія не толькі правільна і выразна перадавалі завучаны тэкст, але і выявілі хоць іскрынку акцёрства, свайго ўласнага падыходу да твораў.

### ВЫНІКІ КОНКУРСУ:

У групе старэйшых вучняў два першыя месцы занялі **Кася Мацкевіч** з Гданьска (была яна найлепшай і ў мінулым годзе) і **Эля Ваўранюк** з Храбалоў; два другія месцы — **Аня Зін** з гайнаўскай „тройкі" і **Андрэй Купрыяновіч** з Дубяжына; тры трэція месцы — **Юліта Баршчэўская** з Трасцянкі (у мінулым годзе была на другім месцы сярод малодшых), **Бася Галёнка** з Новаберазова і **Уршуля Куцэвіч** з Ляшукоў (у мінулым годзе вылучана за цікавае выступленне). Журы адзначыла таксама цікавае выступленне **Эльвіры Іванюк** і **Ані Пархвенюк** з Бельска, а таксама **Агнешкі Саеўскай** з Кленікаў і **Марылі Паскробка** з Нарвы.

У групе малодшых два першыя месцы занялі **Эва Вакулеўская** з Бельска і **Бажэнка Селевановіч** з Кляшчэляў; тры другія — **Кася Сегень** з Бельска, **Анна Раманюк** з Новага Корніна і **Галіна Міхалевіч** з Чыжоў; трэцяе месца — **Рыгорка Байко** з Гайнаўкі. Былі вылучаны: **Агата Глагоўская** з Гданьска, **Анна Кулік** з Гайнаўкі і **Марта Алексяюк** з Храбалоў.

Цэнтральны дэкламатарскі агляд „Роднае слова" быў добра падрыхтаваны дзякуючы намаганням настаўнікаў, а таксама намесніка старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага і сакратара Валянціны Ласкевіч. Апрача кніжак (зборнік вершаў Віктара Шведа „Вясёлка") былі рэчавыя і грашовыя ўзнагароды ад беластоцкай Кураторыі асветы, ГП БГКТ і з фонду Зоі Смаршчок з Бельгіі.

**Ясень**

# ГРАМНІЦЫ

### (СТРЭЧАННЕ ІСУСА ХРЫСТА)

На саракавы дзень пасля Раства маленькага Хрыста прынеслі ў Ерусалімскі храм. Яго сустрэў старэц Сімяон, якому было прадказана Духам Святым, што ён не ўбачыць смерці, пакуль не ўбачыць Хрыста Гасподня. Узяўшы немаўля на рукі, старэц прызнаў у ім Збавіцеля. Народ тлумачыў назву свята як стрэчу зімы з вясною.

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэлася, стрэлася,*
*Лета зіму піхнула, піхнула*
*І пожачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Другая назва свята, як мяркуюць, пайшла ад язычніцкага бога Грамаўніка, якому прыпісвалася ўтварэнне веснавых навальніц і дажджоў. Пасля гэтага дня павінна была ўпасці ўлада змрочных бостваў зімы: „На Грамніцы — паўзіміцы" або „Як прыйдуць Грамніцы — скідай рукавіцы". Гэта пераломнае свята звязана з шэрагам метэаралагічных прыкмет: „Калі на Грамніцы певень з-пад страхі нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я (6 мая) вол пад'есць травіцы". Калі ж на Грамніцы здарыўся вялікі мароз, то снег павінен быў праляжаць нядоўга, а вясна і лета не абяцалі нічога добрага. Грамнічная мяцеліца прадказвала, што вясна затрымаецца даўжэй, чым звычайна. Рэзкае пацяпленне не абяцала прыбытку на полі і ў агародзе: „На Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга". Пры адсутнасці адлігі можна было спадзявацца на пагоднае, сухое лета. На Беларусі гэтае свята было знамянальна такім абрадам, як асвячэнне свечак у царкве. Грамнічныя свечкі (або проста „грамніцы") асабліва шанаваліся ў народзе — іх запальвалі з вераю ў іх дапамогу падчас навальніц, каб маланка не спаліла хату; іх давалі цяжка хвораму ў час канання, каб полымя асвятляла яму шлях на той свет, ачышчала душу ад грахоў. Жыло ў народзе перакананне, што грамнічных свечак баіцца нячыстая сіла, таму і вешалі іх ля ўваходу ў хлеў ці на стайню, каб ведзьмы не адабралі ў кароў малака і не заездзілі коней.

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Віктар Шніп**

### ДЗЯТЛАВА БУДОЎЛЯ

.. Ці вы чулі,
Аці не?
Дзяцел з ранку
На сасне
Ладзіць домічак
Саве.
Сам
Без доміка
Жыве.
Дзяцел, братцы
Не гультай.
Грук стаіць
На цэлы гай.
Ён прачнуўся
Сёння рана.
Працы хопіць
Да цямна.
Паглядзіце, як старанна,
Робіць
Раму
Да акна.

Ды рагоча
Лежабока зайчык Зай.
— Ну чаго ён так рагоча? —
Непакоіцца Сава.
— Пэўна сам
Ён домік хоча.
Ну і хітры!
Галава! —
Гучна каркае
Варона.
Дзяцел мовіў
Не са зла:
— Чым крычаць вось так
Штодзённа,
Лепей мне б дапамагла!
Адвярнулася варона
І з будоўлі
Уцякла.

### ПЕВЕНЬ НАСТАЎНІК

Ходзіць певень
Па двары
Ад зары
І да зары.
Ён — настаўнік куранят.
Строгі
У яго пагляд.

Курыца бяжыць услед,
Кліча вучняў
На абед.
Ды працягваецца ўрок —
Не звінеў яшчэ
Званок.

— Вы за мной
Хутчэй,
Хутчэй! —
Певень кліча ўсіх дзяцей.
— Завяду я вас
У сад.
Пакажу вам
Вінаград.
Там зярнятак
Вельмі шмат.





# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

**МЫШКА ПІК-ПІК ЗАБЛУДЗІЛАСЯ**

Аднойчы прачнулася мышка Пік-Пік днём. А прачнулася яна ад таго, што змёрзла.

— Трэба коўдрачкай накрыцца, — падумала мышка і пачала шукаць сваю коўдрачку. Але тая аказалася такой бруднай, што ёю немагчыма было накрывацца. Аднаго варэння на коўдрачцы быў выліты цэлы слоік. Паставіла мышка коўдрачку да сцяны, як кавалак кардону, і, уздыхнуўшы, вылезла з норкі шукаць новую. А ў кватэры чамусьці было занадта светла. Святло ішло ад вакна.

— Што такое? — здзівілася Пік-Пік, — Сонца ж няма! — і ўлезла на падваконнік. Ах! — усё за вакном было пасыпана нечым белым і пушыстым — і зямля, і дрэвы, і дамы.

— Гэта цукар! — здагадалася мышка. — Колькі цукру! Хутчэй туды, пакуль ўвесь не з'елі!

Мышка выскачыла за дзверы, выбегла на двор і накінулася на цукар. Але ён аказаўся зусім не салодкі, і быў вельмі халодны.

— З вады яго зрабілі, ці што?!! — раззлавалася мышка. — Пакаштую вунь ля тых кусцікаў — можа, там саладзейшы!

Але і там цукар быў не салодкі.

— А можа, там, на горачцы, смачнейшы? — не гублялася надзея. Але і на горачцы, і на другой горачцы Пік-Пік не засмакавала. Бегала, бегала мышка, змерзла, і вырашыла вяртацца дадому. Агледзелася — авой! Вакол усё белае, аднолькавае — і дамы, і пад'езды.

— Дзе ж мая кватэра, мая норка і мае цукеркі? — разгубілася мышка. — Куды ісці?

Закруцілася мышка на месцы, але сказала сабе:

— Спакойна! Я — самая разумная мышка ва ўсіх гэтых бязглуздых дамах. Калі я падумаю, то абавязкова прыдумаю... А што я прыдумаю? Як бы даведацца, што я прыдумаю?

І тут мышка заўважыла, што на белым цукры яе лапкі пакідаюць сляды.

— Калі я пайду назад па сваіх слядах, я абавязкова вярнуся да свайго пад'езду! — узрадавалася мышка.

І Пік-Пік пабегла назад па сваіх слядочках. Бегчы давялося доўга і складана, увесь час кругамі. Але нарэшце апынулася мышка ў нейкім пад'ездзе. Пабегла яна ў кватэру, а дзверы — зачыненыя!

— Ах, так! — раззлавалася Пік-Пік — ну, дык вам будзе горай! — і яна



*Дзяўчынка Веранічка ў гасцях у бабы Галі.*

хуценька адгрызла куточак дзвярэй і забегла ўнутр. А гэта была зусім чужая кватэра! Пабегла мышка да другіх дзвярэй, і тыя прагрызла. Зноў чужая кватэра! Толькі сёмыя дзверы аказаліся расчыненымі, і гэта была менавіта мышчына хата!

І вось Пік-Пік дома.

— Я сёння была вельмі разумнай, — падумала мышка. — А цукру не з'ела! І коўдрачкі не знайшла!

Але тут яна заўважыла Веранічкіну пушыстую рукавічку.

— Так, коўдрачкі ў мяне няма, але затое будзе цалкам прыстойны спальны мех! — сказала Пік-Пік і пацягнула рукавічку ў норку.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

****************************************************

**Паглыбляй свае веды**

# ЯК ПРАДКАЗАЦЬ НАДВОР'Е

**Хмары** — гэта самыя даступныя паказчыкі будучай пагоды. Найчасцей гэта бываюць кучавыя (кумулюсы) — далікатныя, пухкія, ваўністыя, якія завуць „баранчыкамі". Часцей за ўсё бачым іх у пагодныя летнія дні, як плывуць яны па чыстым блакітным небе. Прадказваюць яны сухую пагоду, асабліва, калі ідуць вельмі высока і паволі. Аднак, калі надта парна, тады іменна іх разнавіднасць (лумуланімб) з'яўляецца пагрозлівым асяродкам раптоўнай навальніцы. Нагрувашчанне такіх хмар паказвае, што ў атмасферы наступаюць хуткія перамены, якія звязаны з ліўнем. У нізе растрапанай хмары часта відаць цёмна-сінюю яе сцяну, якая сведчыць пра тое, што набліжаецца магутны віхор.

**Перыстыя воблакі** (цырусы) укладваюцца тонкімі пластамі і бываюць „калматыя". Ляцяць яны вельмі хутка і высока над зямлёю і складаюцца з самых крышталікаў лёду, нават у самыя гарачыя дні лета. Яны — „авангард" надыходзячай навальніцы, асабліва калі прымаюць форму закручаных пасмаў валасоў або доўгіх перыстых хвастоў. Тады вядома, што раптоўныя перамены наступяць за бліжэйшыя 10-30 гадзін. Напрамак, у якім ідуць хмары, таксама гаворыць пра пагоду. Калі яны ідуць з захаду, тады прадказваюць дождж. Часам можна заўважыць, як два пласты хмараў, якія знаходзяцца на розных вышынях, плывуць у розных напрамках. Гэта таксама прадвеснік буры.

**Вятры** таксама добрыя прадказальнікі пагоды. Заходнія вятры часта прыносяць дождж; паўночна-заходнія летам — асвяжальную прахаладу, усходнія і асабліва паўднёва-ўсходнія — сонечныя, сухія дні. Калі вецер раптоўна змяняе свой напрамак, гэта абяцае дождж і ўраган.

**Персцені і арэолы.** Вакол сонца і месяца яны часта рознакаляровыя, як вясёлка, чырвоныя знутры або звонку, бываюць прадвеснікамі дажджавой або снегавой навальніцы, залежна ад пары года. Хіба што яны „растуць проста ў вачах" — тады сігналізуюць большыя праясненні. Гэтыя з'явы выклікае святло абодвух нябесных целаў, якое прабіваецца скрозь пласты вільготнага паветра, якія знаходзяцца высока над зямлёю. Калі арэол мае большы папярочнік, чым персцень, тады ён папераджае, што неўзабаве наступіць раптоўная перамена пагоды.

**Грымоты і бліскавіцы.** Калі яны паяўляюцца нават раннім ранкам, то ўсё ж прадказваюць лівень яшчэ ў той самы дзень, найпазней перад захадам сонца, асабліва калі горача і парна.

# ЁЛКА Ў СЕМЯНОЎЦЫ

24 студзеня, у пятніцу, у фізкультурнай зале ў школе адбылася „ёлка" для дзяцей. Залу дзеці прыгожа прыбралі, на сценах павесілі малюнкі, паставілі ёлку. Танцы пад магнітафон пачаліся а 14, а ўрачыстая мастацкая частка а 16 гадзіне.

У гэтым годзе на ёлку прыйшло шмат дзядуляў, бабуль і бацькоў вучняў, але былі і бацькі з дзецьмі, якія не вучацца яшчэ ў школе. Ледзьве ўдалося ўсіх памясціць!

На пачатку мастацкай часткі дзеці спявалі калядкі. Першымі выступілі вучні класа „0". За імі стаялі старэйшыя дзеці, трымалі звязду і фанары, і ўсё гэта выглядала, быццам прыйшлі сапраўдныя каляднікі. Айцец Мікола Шабелян падбадзёрваў, дапамагаў дзеткам спяваць. На канец каляднікі традыцыйна пажадалі: „Дай Божа даравалі! На другі год дачакалі!"

Вучаніца восьмага класа Галіна расказала, адкуль узялася традыцыя святкавання Раждзества Хрыстова 25 снежня. Потым была ўжо свецкая мастацкая частка. Вучні „0" класа паставілі п'есу „Новы год" і спявалі песні. Вучні сёмага і восьмага класаў прадставілі сцэнкі „У рэстарацыі" і „У школе". П'еса „Пакушэнне першых людзей" закончыла гэтую частку „ёлкі". Пасля ўсе чакалі Дзеда Мароза. Дзеці з настаўніцай музыкі спявалі песню і клікалі яго. Урэшце паявіўся Дзед Мароз з падарункамі для дзяцей і настаўнікаў. Дзед Мароз дапытваўся ў вучняў, ці добра вучацца, ці паслухмяныя, прасіў заспяваць песню ці прачытаць верш.

На „ёлцы" ў Семяноўцы было вельмі прыемна. Шкада толькі, што такая сустрэча — толькі раз ў год!

**Ірэна Салавей**

## Пішуць школьнікі

*Я вучуся ў шостым „А" класе ў Орлі. На ўроку беларускай мовы мы складалі вершы пра зіму. Мая настаўніца Анна Шыманская сказала, што мой верш вельмі прыгожы. А вось і ён:*

## ЗІМА

Мы зіму ўжо чакаем,
Калі прыйдзе, мы не знаем.
Рана зіма да нас прыйшла
І нам снегу прынясла.

Дзеці цешацца, гуляюць
І ў снежкі яны іграюць.
Але птушкам — дык бяда:
Ёсці ім чаго няма!

Дзеці аб тым добра знаюць,
Птушкам усім дапамагаюць:
Носяць зерне, саланінку
І кармушку на галінку.

**Аня Яканюк**

# МЫ Ў НАРВЕ

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"**

Пішуць табе вучні восьмага класа з Пачатковай школы ў Нарве.

У гэтым навучальным годзе нас ужо вучыць беларускай мове настаўніца Ніна Абрамюк.

Заняткі ў нас адбываюцца ў габінеце беларускай мовы. Наша зала невялікая, але прыгожая. У ёй знаходзіцца сучасная мэбля, у якой стаяць кніжкі, альбомы і дапаможнікі для вучняў. Сцяну ўпрыгожвае сценгазета, якую мы пастаянна змяняем. Мы таксама наладзілі этнаграфічны куточак. У нашым класе многа кветак.

Мы ахвотна вывучаем беларускую мову. Раз у тыдзень мы працуем з „Нівай". Пасля ўрокаў арганізуем розныя мерапрыемствы і наладжваем сустрэчы з беларускімі людзьмі. У нашай школе былі рэдактар „Нівы" Ян Максімюк і госці з часопіса „Вясёлка" з Менска і „Зорка" — Міра Лукша. Мы хочам табе расказаць пра сустрэчу з рэдактарамі „Вясёлкі".

20 снежня 1991 года ў нашу школу прыехалі Тамара Тарасава, Мікола Чарняўскі і Мікола Маляўка. На ўступе Т. Тарасава расказала аб тым, як яны працуюць у часопісе. Потым выступілі са сваімі творамі М. Маляўка і М. Чарняўскі. Яны дэкламавалі вершы і чыталі казкі. Час праходзіў весела і прыемна ў супольнай гульні „Разумная варона". Ад гасцей мы атрымалі кніжкі з аўтографамі аўтараў. Нашы вучні таксама выступілі — прэзентавалі вершы Максіма Багдановіча. Разам з гасцьмі з Менска была Міра Лукша.

У прыемнай атмасферы наступіў час развітання.

Мы хочам, каб іншыя вучні напісалі аб сваёй школе, аб сустрэчах, мерапрыемствах, якія ў іх школах праводзяцца.

А табе, паважаная „Зорачка", жадаем усяго найлепшага!

**Вучні восьмага класа.**

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Хто якога зляпіў снегавіка?

# ВЕРСІІ ✵ КУР'ЁЗЫ ✵ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ - ЗДРАДНІКІ
(працяг)

Неўзабаве Сташынскі атрымаў сумную вестку ад жонкі з Берліна. На запаленне лёгкіх памёр іх сын. На пахаванне паляцеў ён ваенным самалётам у суправаджэнні афіцэра дзяржаўнай бяспекі Юрыя Аляксандрава. Ягоны спадарожнік ва ўсім гэтым бачыў хітрасць, заманку ў пастку, якую яму падрыхтавалі ў Берліне.

Ва Усходнім Берліне супрацоўнікі КДБ кругласутачна наглядалі за Сташынскімі. Перад домам бацькоў Інге днём і ноччу стаялі чорныя аўтамашыны. Чые яны, лёгка было здагадацца.

Сташынскія дадумваліся, што адразу пасля пахавання сына іх забяруць назад у Маскву. Яны намерыліся ўцячы да амерыканцаў. Але як і калі? Вырашылі што найлепш яшчэ перад пахаваннем, ашукаўшы чуйнасць КДБ. Шлюбная пара крадком выйшла з дому і, хаваючыся за жывую агароджу, прашмыгнула на суседнюю вуліцу. Ёй пашанцавала: наглядальнікі нічога не прыкмецілі.

Амерыканцы наладзілі Багдану сустрэчу з прадстаўнікамі ўлад Заходняга Берліна, якія і заявілі яму аб арышце за падрыўную дзейнасць. Аб ягоных забойствах не сказалі ні слова.

Заходнегерманскія разведчыкі дзіваваліся небяспечным уцекам аднаго з найлепшых савецкіх дыверсантаў. У кастрычніку 1962 года адбыўся суд над Сташынскім. Агент расказаў аб сваёй тэрарысцкай дзейнасці, аб заданнях, якія ставіла перад ім і другімі разведчыкамі спецыяльнае аддзяленне КДБ. Атрымаў прыгавор на восем год турэмнага зняволення. Пакаранне адбыў поўнасцю... і ў пэўнай ступені супакоіў сваё сумленне.

У 1964 годзе спіскі ўцёкшых кадэбістаў „упрыгожыў" намеснік начальніка контрразведкі Юры Носенка, сын сталінскага народнага камісара. Носенка зрабіў гэта ў часе службовай камандзіроўкі ў Швейцарыю. Перад сваімі новымі „хлебадаўцамі" раскрыў ён тайну, якім чынам руская контрразведка пранікла ў замежныя пасольствы. Выявіў і тое, у якіх дакладна месцах у пасольстве ЗША і другіх пасольствах знаходзяцца мікрафоны. Амерыканцы былі зашакіраваны гэтай весткай. Усё сказанае кадэбістам пацвердзілася!

Разведчык Краткоў уцёк на Захад падчас турпаездкі. У „вольнай краіне" ён расказаў аб тым, як атрымаў заданне КДБ, каб здабыць давер у французскага пасла ў СССР Морыса Дзежана. Яму гэта ўдалося. Ён акружыў пасла прыгожымі актрысамі, паколькі не быў ён абыякавы да прыгожых жанчын. Морыс закахаўся ў адну з іх. Пачаў абыякава адносіцца да сваіх службовых абавязкаў.

Цяжка сказаць, чым усё гэта магло б закончыцца, калі б не ўцёкі Краткова. Дзежана паклікаў да сябе генерал дэ Голь і, сказаўшы: „Вы занадта любіце жанчын, дарагі Морыс!" — адправіў яго ў адстаўку.

Яркім прыкладам здрадніцтва, была справа палкоўніка з генштаба Алега Пянькоўскага. Ён быў арыштаваны ў Маскве. Яго абвінавацілі ў шпіянажы і жорстка пакаралі. Кім быў Пянькоўскі? Дык вось франтавік, які прайшоў праз усю вайну, кавалер некалькіх ордэнаў, зяць маршала. Палкоўнік сам шукаў сувязі з замежнай разведкай, калі выязджаў за граніцу. Прыгарнула яго англійская разведка.

Правал Пянькоўскага наступіў зусім выпадкова, якраз падчас праведзенага рускай разведкай сачэння за ўсімі супрацоўнікамі англійскага пасольства і іх сем'ямі. Жонка аднаго з англійскіх разведчыкаў у СССР зайшла „паправіць панчоху" у пад'езд адной са старамаскоўскіх камяніц і паклала тайнік. Праз нейкі час забраў яго мужчына. Гэта быў Пянькоўскі! Пасля прыпільнавалі, як ён фатаграфаваў тайныя дакументы. Злавілі таксама яго сувязіста і арыштавалі. Неўзабаве сувязіста абмянялі на кадравага савецкага разведчыка, які сядзеў у англійскай турме.

У сямідзесятых гадах здрадзілі сваёй Айчыне супрацоўнік разведкі КДБ Лялін (ён уцёк у Англію) і агент генштаба палкоўнік Філатаў. Другі з іх быў асуджаны ваенным трыбуналам. Але пра іх чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

Апрацаваў
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




Дарагі Астронку! Вельмі трапна разгадаў ты мае сны, напісаўшы, што абазначаюць яны смутак, хваробу ў сям'і, нават канкрэтна — хваробу мужа. Калі яны мне сніліся, нічога дрэннага не было, усе здаровыя былі. А праз нейкі час захварэў цяжка мой муж, а ў сяброўкі, што ў сне была разам са мной у царкве, цяжка захварэла сястра. Сны, аднак, сняцца мне надалей. Але ўжо іншыя.

Вось іду я быццам з мужам па дарозе каля лесу. На ўскраіне яго стаіць маладая жанчына — п'яная. Мой муж падыходзіць да яе, а яна ўжо легла на траву. Я ўзбурылася і кажу:„А табе чаго ад яе трэба?! А ну, пайшлі далей!" Муж паслухаўся, кінуў яе, і мы пайшлі далей па дарозе.

А мужу майму прысніўся вось такі сон. Ідзе ён таксама па дарозе. Але нешта яму гэта дарога не спадабалася і ён павярнуў на другую дарогу.Ішоў праз лес і выйшаў на прамую дарогу, паабапал якой расла зялёная трава.

А дачцэ маёй прысніўся такі сон. Засмечаная хата. Яна пачынае замятаць, крыху замяла, але таго смецця так многа, што яна ніяк не можа даць рады. Урэшце так і пакінула.

**Марыя**

Марыя! Твой сон гаворыць за тое, што твой муж можа мець нейкія клопаты з-за дурных сяброў. Тая п'яная жанчына, да якой ён сабраўся лезці, яскрава сведчыць аб гэтым.

Аднак жа сон мужа пераконвае ў тым, што з гэтых клопатаў ён выйдзе на прамую дарогу. Пацвярджае добрую надзею зялёная трава, якая расла паабапал дарогі.

Што датычыцца сну тваёй дачкі, дык, на жаль, прадвяшчае ён непрыемнасці (могуць вынікнуць у сувязі з нейкімі плёткамі). Смецце!

**АСТРОН**




Сэрцайка! Людзі казалі, што ў цэлым наваколлі не было такой пары, як мы. Заўсёды і ўсюды хадзілі мы разам, моцна трымаючыся за рукі. Зусім не так, як іншыя мужы і жонкі. Нікуды — асобна! У госці, у кавярню, за пакупкамі. Было ў нас 5-гадовае дзіця, а жыццё ўсміхалася нам усімі колерамі вясёлкі, калі з неба грымнуў гром.

Аднойчы мы дамовіліся сустрэцца з мужам у кавярні, але нешта яго затрымала даўжэй на рабоце і ён паведаміў мне па тэлефону, што не прыйдзе. Я вырашыла выпіць каву адна. Але праз момант да мяне падсела знаёмая з нейкім прыстойным мужчынам. Яна была радасная, вочы ў яе блішчэлі, закаханым позіркам глядзела яна на свайго спадарожніка. Я сядзела, злосная ад таго, што не было побач са мной майго мужа.

Праз нейкі момант я заўважыла, што спадарожнік маёй знаёмай з цікаўнасцю прыглядаецца да мяне. Мы пачалі размаўляць. Пасля ён нават пачаў заляцацца да мяне. І, мушу прызнацца, я са страхам заўважыла, што яго залёты неабыякавы мне.

Калі сяброўка выйшла на момант у туалет, ён прымусіў мяне даць згоду на наступную сустрэчу.

Тайком сустрэліся ў кавярні, што знаходзілася недзе на ўскраіне горада. Я закахалася. Не магла пражыць без яго ніводнага дня. Прынамсі — пазваніць, пагаварыць. Дом стаўся мне абыякавы. Не цягнула дахаты нават дзіця, а што ўжо гаварыць пра мужа...

Я пачала падумваць аб тым, каб развесціся з мужам, бо я ўжо да яго нічога не адчувала. Ён яшчэ не разумеў, што здарылася, але калісь сказаў мне ў задуменні:„Ты нешта перажываеш..." Я нічога не адказала. Я наогул стала маўклівай. Думкі мае былі толькі з маім новым каханым.

А ён? — Нацешыўшыся новым каханнем (да мяне, бо з той маёй знаёмай парваў раней), ён неяк пахаладзеў. Ужо не заўсёды меў час сустрэцца са мной. Калі я гаварыла, што прыйду да яго, адказваў неяк абыякава:„Прыходзь, калі хочаш". А пасля я сустрэла яго ў горадзе пад руку з адной прыгожай паненкай. Мне стала моташна. Плакала я пяць дзён і начэй. Але зразумела: разводзіцца няма патрэбы. Лепш вярнуся на лона сям'і і буду з мужам выхоўваць свайго сыночка.

Можа, усё б яшчэ скончылася не так трагічна, калі б мой муж „чакаў" мяне. Аднак ён, такі закаханы ў мяне калісьці, адчуўшы, відаць, мой холад у адносінах да яго, паспяшаўся сабе таксама пацешыцца з прыгожай сяброўкай з працы. Нават не кваліўся, каб сагрэць мяне ізноў сваімі пачуццямі. Я засталася адна. Што рабіць, Сэрцайка, як вярнуць хоць аднаго з гэтых маіх мужчын?

**Анэта**

Анэта! А трэба было лічыцца з тым, што мужчыны рэдка калі „чакаюць". Вось бачыш, узяў твой муж ды пацешыўся сяброўкай з працы! Што датычыцца твайго другога мужчыны, дык ён — звычайны лавелас. Прыйшоў з адной, закахаўся ў другую, кінуў яе для трэцяй. Для такіх мужчын жанчыны часта трацяць галаву, а лепш было б іх абыходзіць здалёк.

Раю разлічваць на мужа: у вас жа і дзіця. Трэба проста перачакаць, не будучы пры гэтым занадта назойлівай. Думаю, што ён ужо засумаваў па табе.

**СЭРЦАЙКА**




## СТРАВЫ З ФАСОЛІ

### Запяканка

На 1 шклянку вялікай белай фасолі („Ясь") трэба ўзяць 1 шклянку нарэзанага качанчага бачку, 2 шклянкі памідорнага соку ці перацёру, 3 сярэднія яблыкі, паўшклянкі пасечанай цыбулі, 1/4 шклянку цукру, 1 лыжачку змеленай гарчыцы, 1 лыжачку солі, 1/4 лыжачкі перцу.

1. Фасолю перабраць, спаласнуць, заліць вадой на 15 мінут. Адцадзіць, заліць вадой, пакідаючы на ноч.
2. Фасолю варыць у вадзе, у якой яна мачылася. Не адцэджваць. Перамяшаць яе з рэштай прадуктаў, пераліць у каструльку, шчыльна накрыць.
3. Пячы ў духоўцы паўтары гадзіны.

Падаваць з хлебам.

Прапорцыя для трох асоб.

### Гуляш

На 2 шклянкі белай фасолі трэба ўзяць паўтары шклянкі вараных памідораў ці памідорнага перацёру, 2 пасечаныя цыбуліны, 1/4 малога пасечанага сэлера, паўшклянкі пасечанай зялёнай папрыкі, 2-3 пасечаныя зубкі часнаку, 2-3 лыжкі алею ці маргарыну, 3 вялікія пасечаныя морквіны, 1 вялікую пасечаную бульбіну, 1 шклянку нарэзанай калярэпы, 1 лыжачку чабару ці маярану, паўлыжачкі базыліі, 2 лыжачкі солі, 1/4 лыжачкі перцу, 4 лыжкі дробна пасечанай зялёнай пятрушкі.

1. Фасолю перабраць, памыць, заліць вадой на 15 мінут, адцадзіць, заліць вадой нанач.
2. Фасолю варыць у вадзе, у якой яна мачылася.
3. На разагрэтым алеі смажыць цыбулю, сэлер, папрыку і часнок, дадаць усё гэта да фасолі.
4. Дадаць рэшту гародніны, запраўіць зёламі, соллю і перцам, давесці да кіпення, а тады накрыць і зменшыць агонь; варыць на малым агні, пакуль гародніна не стане мяккай.

Есці гуляш з гародніны са свежым хлебам ці булкамі.

Прапорцыя для 4-6 асоб.

### Фасоля з засмажкай

На 2 шклянкі варанай адцэджанай фасолі ўзяць 1 лыжку шмальцу, паўшклянкі пасечанай цыбулі, 2 расцертыя зубкі часнаку, 2 лыжкі пасечанай свежай вострай папрыкі або паўлыжачкі прыправы „чылі", паўлыжачкі змеленай каляндры, 1/4 лыжачкі цынамону (карыцы), 1/8 лыжачкі змеленай гваздзікі, 2 шклянкі адвару на фасолі, паўлыжачкі солі.

1. Шмалец разагрэць на вялікай патэльні, усыпаць цыбулю, дадаць часнок і смажыць, часта мяшаючы. Цыбуля павінна быць шклістая. Тады дадаць папрыку або „чылі" і іншыя прыправы, смажыць 2 мінуты, зняць з агню.
2. Фасолю перамяшаць з адварам. Палавіну працэрці праз сіта або ў міксеры. Перамяшаць працертую фасолю з цэлай, добра падагрэць.
3. Да фасолі дадаць падсмажаную цыбулю з прыправамі, мяшаючы, давесці да кіпення.

Падаваць з грэнкамі, свежым хлебам ці булкамі, рысам або макаронам і салатай.

Прапорцыя для 2-4 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**

(З кнігі
Кацярыны Пасняшынскай
„Якія часы, такая кухня")

## АНЕКДОТЫ

— Ці гэта праўда, што ты выдаў дачку за свайго касіра?
— Праўда.
— Але ж ты казаў, што не давяраеш яму.
— Вось таму і выдаў дачку: калі ён будзе красці ў мяне, дык грошы ўсё роўна ёй дастануцца.

* * *

— Ці ўсю самагонку ў цябе канфіскавалі?
— Не, ўдалося выратаваць чатыры літры.
— А як?
— Паспеў яе выпіць перад прыходам паліцыі.

* * *

— Вы абвінавачваецеся ў тым, што стукнулі сваю жонку талеркай па галаве. Няўжо вам яе не шкада?
— Як жа не шкада! Талерка была зусім новая.

* * *

— Ведаеце, дырэктар нашай запалкавай фабрыкі атрымаў узнагароду.
— За што, цікава?
— Дыверсанты імкнуліся яго запалкамі падпаліць цыстэрну з бензінам на ваенным аэрадроме. І не здолелі.

* * *

— Мама, ты мяне кахаеш?
— Кахаю, сынок.
— А майго маленькага брацікa?
— Таксама кахаю.
— Ты глядзі.., а ўчора наша Галінка каля брамкі камусьці казала, што двух кахаць нельга.

* * *

Жонка, гледзячы ў акно, кажа:
— Снег ідзе.
Муж не адрываючыся ад газеты:
— Скажы, што мяне няма дома.

* * *

Паліцэйскі спыняе пачынаючага вадзіцеля:
— Ці вы бачылі знак? Там дазваляецца ехаць толькі ў адным напрамку.
— А што, — супярэчыць вадзіцель, — ці ж я еду ў двух?

* * *

Васілю лекар забараніў піць і курыць. Праз паўтара месяца калегі ўбачылі яго ў рэстаране з папяросай у зубах.
— Што, Васіль, ты ўжо вылечыўся? Табе ж доктар забараніў піць і курыць.
— Дык вось ён учора памёр...

* * *

Капітан судна запісаў у дзённіку: „Сёння боцман быў п'яны". Боцман залаваў і пайшоў сказаць капітану, што гэта здарылася яму ўпершыню.
— Можа яно і так, — сказаў капітан, — але я павінен запісваць усе здарэнні, усе без выключэння.
Праз пару дзён боцман запісаў у дзённіку: „Сёння капітан быў цвярозы".

**Падборку зрабіў
Ясень**



**З народнага гумару**

— Ці бачыш? У тваю хату праз акно злодзей лезе!
— Ціха, ціха, няхай лезе! Жонка падумае, што гэта я, і дасць яму дыхту.




*(„Звязда")*

## ЛІТАРАЛЬНА ЗРАЗУМЕЎ

Муж скардзіцца жонцы:
— Ліха ведае, што гэта за час такі, ніяк на грошы разжыцца немагчыма...
— А што трэба зрабіць, каб мець грошы? — пытае шасцігадовы сынок.
— Трэба быць разумным, працавітым і шмат чаго ведаць, — павучае бацька.
— А ці ж тата дурны, гультай і нічога не ведае?!

*„Маланка", 1928 г.*

## УСТУПІЎ МЕСЦА

**(усмешка)**

Ускочыў я ў тралейбус. Прабег вачыма па салону, шукаючы, дзе можна сесці. На жаль, усе месцы былі занятыя. У некалькіх кроках ад мяне стаяла жанчына з сумкай у руках, а прама перад ёй сядзеў хлопец гадоў дзесяці — дванаццаці. „Ну і грубіян! — падумаў я, не зводзячы з яго вачэй. — Каму, як не яму, уступіць месца жанчыне?" І я, не чакаючы, пакуль ён здагадаецца, сам звярнуўся да яго:
— Слухай, ты ў школу ходзіш?
Хлопец скасіў на мяне вочы.
— А што такое? Хаджу...
— У які клас?
— Ну, у пяты...
— Малайчына. А як цябе зваць?
— Дзмітры. А навошта?
— Дзмітры, будзь добрым, уступі месца.
Хлопец робіць выгляд, што не чуе мяне, і працягвае глядзець у акно. Я яшчэ раз яму нагадваю, але ён і на гэты раз вухам не павёў. „Ну і ўпарты хлопчык, — падумаў я, — Няўжо не ўступіць". І тут мяне такая злосць узяла...
— Паслухай, хлопчык, я дам табе плітку шакаладу, толькі ўступі месца, — сказаў я і ўбачыў, як хлопец павярнуў галаву і з цікавасцю глянуў на мяне.
— А ты не маніш?
— Не, сур'ёзна...
Я дастаў з кішэні плітку шакаладу, працягнуў хлопчыку. Той хутка падхапіўся і стаў збоку. Тады я звярнуўся да жанчыны:
— Прашу садзіцца!
Яна нейкі час глядзела на мяне здзіўленымі вачыма, не разумеючы, праўду я кажу ці не, можа, жартую. Праз нейкі час села і звярнулася да хлопчыка:
— Сынок!
— Што, мама?
— Ты падзякаваў дзядзьку за шакаладку?

**ВАСІЛЬ КІШКАН
(„Перацэ", н-р 15/1989)**
*З украінскай мовы пераклаў
Валеры Бабей*

## КАСЯК НА „Т"

**Управа:** 1) лесапільны завод, 2) цела без душы, 3) камунікацыйны шлях у пачатку самаходнай машыны, 5) еэдзіць у вялікіх гарадах, 7) насякомае з вагой упакоўкі ў пачатку, 10) сфармуляваныя палажэнні, якія коратка перадаюць асноўныя думкі лекцыі, даклада, артыкула, 12) абточвае, стоячы за машынай, 13) дзесяць цэнтнераў.

**Улева:** 1) са свечкамі ў дзень нараджэння, 2) сінтэтычны матэрыял на беговай дарожцы, 4) цягач, 6) месца зняволення, 8) назва геаграфічнага аб'екта, 9) сякера мужчынскага роду, 11) летняя прыбудова да дома ў выглядзе пляцоўкі над дахам на слупах, 14) шырокія і неглыбокія круглыя металічныя або пластмасавыя пасудзіны.

**„ядань"**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 1 н-ра. Управа:** Ленін, люмен, ледавік, лоб, лапата, лагер, лужа. **Улева:** лес, любімец, лепет, лодар, ліманад, ласун, ласіха, лета.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

********************************************************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- marzec – 15 000 zł.
- kwiecień – 12 000 zł.
- maj – 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.